НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
№ 45 (930) 2 снежня 2015 www.nn.by
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Зянон. Гісторыі з жыцця

Старонка 15



## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

# Свет ашалеў

У Расіі разгортваецца **антытурэцкая кампанія**.

Пуцін увёў санкцыі, з Расіі выганяюць турэцкі бізнэс. Зачыняюцца рэстараны турэцкай кухні. З Турцыі адклікалі студэнтаў. Нават забаранілі прадаваць турпуцёўкі на турэцкія курорты!

Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін сваім указам забараніў працадаўцам з 1 студзеня 2016 года прыцягваць на працу грамадзян Турцыі. Раней туркі шмат чаго будавалі ў Расіі.

А прэм'ер Мядзведзеў наклаў эмбарга на турэцкую садавіну і нават соль.

Акрамя таго, забароненыя чартарныя авіяпалёты ў Турцыю.

Усе тэленавіны ўтрымліваюць штосьці на адрас Турцыі. Пасольства Турцыі ў Маскве закідалі камянямі і фарбай, нягледзячы на дыпламатычную недатыкальнасць.

Усё гэта — адказ на тое, што туркі збілі расійскі бамбавік, што з Сірыі на лічаныя секунды заляцеў на турэцкую тэрыторыю. Першы раз такое здарылася ад часоў халоднай вайны.

Жырыноўскі нават заклікаў скінуць атамную бомбу на Стамбул. А генералы кінуліся адкрываць другую авіябазу ў Сірыі — гэтым разам каля Хомса.

Турцыя і Саудаўская Аравія між тым працягваюць настойваць на адстаўцы прарасійскага прэзідэнта Асада.

Што б ні было далей, украінцы могуць уздыхнуць з палёгкай. З барацьбы з «бандэраўцамі» расійская машына пераключылася на «пасобнікаў тэрарыстаў».

**Мікола Бугай**




Рэакцыя Аляксандра Лукашэнкі

Старонка 3.

REUTERS/MAXIM SHEMETOV

«Турцыю да адказу», — заклікаюць «працоўныя Масквы».

## Алексіевіч будзе гаварыць пра боль

**7 снежня** Святлана Алексіевіч у Стакгольме выступіць з нобелеўскай прамовай.

Прамова пачнецца ў 19:30 па беларускім часе ў будынку Шведскай акадэміі (Källargränd 4). На сайце Нобелеўскага камітэта адзначаецца, што колькасць квіткоў на гэты выступ абмежаваная.

За дзень да гэтага Алексіевіч па тым самым адрасе дасць вялікую прэс-канферэнцыю.

10 снежня ў 18:30 адбудзецца сама цырымонія ўзнагароджання ў канцэртнай зале Стакгольма. На ўрачыстай цырымоніі будзе прысутнічаць кароль Швецыі Карл XVI Густаў. Менавіта з ягоных рук Алексіевіч атрымае самую прэстыжную ў свеце літаратурную ўзнагароду. Традыцыйна па завяршэнні афіцыйнай часткі таксама ладзіцца банкет у гарадской ратушы.



Ініцыятыва арганізацый «Цытуй сваё!», у якую ўваходзяць Міжнародны кансорцыум «ЕўраБеларусь», грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!», Лятучы ўніверсітэт, курсы беларускай мовы «Мова нанова» і Беларускі калегіум, прапануе зладзіць грамадскія прагляды нобелеўскай прамовы і ўручэння (яны будуць транслявацца ў інтэрнэце).

Сама Святлана Алексіевіч крыху раскрыла таямніцу, аб чым будзе яе Нобелеўская прамова. У інтэрв'ю каталонскай газеце *La Vanguardia* яна сказала: «Я працытую Шаламава, які прайшоў праз ГУЛАГ і бачыў, паводле яго слоў, «вялікую бітву за абнаўленне чалавека». Я таксама ўдзельнічала ў гэтым, у маладосці я верыла ў СССР. Але адзіны след, які пакінулі бальшавікі, — гэта лужыны крыві. Пра гэта я і пішу. Мая прамова будзе ўдарам, яе змест будзе грубым і жорсткім», — адзначыла пісьменніца.

Стала вядома, што строй Алексіевіч замовіла ў вядомага мадэльера Сашы Варламава. «Мы супрацоўнічаем са Святланай ужо паўгода, ад таго моманту, як яна стала Афіцэрам ордэна французскай літаратуры і мастацтва. «Я дакладна вам скажу, што гэта не будзе вечаровы строй. Гэта прынцыпова — Святлана іх увогуле не носіць. А галоўны яе крытэр у тым, каб у сваім строі яна магла гаварыць пра боль. Калі сукенка, як яна кажа, «для дамачкі, якая не зведала пакутаў», то такую Святлана не апране. Пабачыце ўсё потым», — сказаў Саша Варламаў.

**Зміцер Панкавец, Арцём Гарбацэвіч**

## Як вярбуюць у наркакур'еры праз інтэрнэт

«Работа для ўсіх». **Старонка 11.**

## Чым займаецца Таццяна Караткевіч?

Дзе падзелася экс-кандыдатка ў прэзідэнты. **Старонка 3.**

## Цёмная гісторыя з затрыманым на вакзале «баевіком»

Неадэкват ці агент? **Старонка 4.**

## Эльдар Разанаў: сумленны да канца

Памяці рэжысёра. **Старонка 13.**



Будучыня

# Штучны фотасінтэз

**Біл Гейтс абяцае за 10 гадоў ажыццявіць энергетычную рэвалюцыю.**

Мультымільярдэр-візіянер захапіўся ідэяй стварэння альтэрнатывы нафце і газу.

Біл Гейтс быў адным з нешматлікіх непалітыкаў на кліматычным саміце ў Парыжы. Ён узбуджана апісваў магчымасць выпрацоўкі энергіі ў выніку працэсу штучнага фотасінтэзу, выкарыстоўваючы сонечную энергію для стварэння вадкага паліва.

«Калі гэта будзе, гэта будзе фантастыка», — цытуе Гейтса «Ройтэрз».

Цяпер сонечная энергія выкарыстоўваецца праз батарэі. У выпадку штучнага фотасінтэзу будзе адбывацца фактычна паскораны працэс утварэння нафты. І атрыманае паліва можна будзе лёгка перавозіць.

Гейтс прыехаў у Парыж, каб прасоўваць свой новы дабрачынны праект: *Breakthrough Energy Coalition*, нефармальны клуб 28 прыватных інвестараў з усяго свету, якія ўкладаюць грошы ў новыя даследаванні ў энергетычным сектары.

Гейтс захапіўся ідэямі Вацлава Сміла (*Vaclav Smil*), малавядомага прафесара-чэха, які працуе ва ўніверсітэце Манітоба ў Канадзе.

Гейтс разлічвае, што новыя тэхналогіі здольныя гэтым разам прыкмеціць хутчэй. Па ягоных разліках, гадоў 10 трэба на распрацоўку тэхналогіі штучнага фотасінтэзу. Яшчэ гадоў 20 пойдзе на ўкараненне яе ў розных краінах.

Сямён Цыбульскі




# У Малдове задумвалі сцэнар, падобны да данбаскага

**Спецслужбы арыштавалі дзве групы ўзброеных штурмавікоў.**

Праваахоўныя органы Малдовы затрымалі 13 чалавек, якія маюць дачыненне да падрыхтоўкі акцый па гвалтоўным захопе ўлады ў краіне. «У Малдове задумвалі сцэнар, падобны да данбаскага», — заявіў кіраўнік паліцыі Георге Каўкалюк.

Паводле яго слоў, першапачаткова члены групоўкі планавалі захапіць вайсковую частку ў горадзе Бельцы і мясцовую турму.

Каўкалюк адзначыў, што двое затрыманых — грамадзяне Расіі, а двое — жыхары Данецкай вобласці Украіны. Усе затрыманыя наведвалі Прыднястроўскі рэгіён Малдовы і Данбас.

Напярэдадні праваахоўнікі Малдовы абясшкодзілі іншую крымінальную групоўку, якая планавала стварыць Бесарабскую рэспубліку і абвесціць яе часткай «Наваросіі».

Усе затрыманыя абвінавачваюцца ў тэрарызме і спробе змены дзяржаўнага ладу. Калі віна затрыманых будзе даказаная, ім пагражае пажыццёвае турэмнае зняволенне.

Сяргей Гезгала

### Ад імені Алексіевіч распаўсюджваецца фальшывая інфармацыя пра напад на яе

Звесткі распаўсюджваюць з акаўнта ў твітары, заведзенага ад імя пісьменніцы. Сама яна твітара не вядзе.

У паведамленні па-англійску ад імя пісьменніцы паведамляецца, што на яе напалі, а адказнасць за гэта ўскладаецца на беларускія ўлады. Святлана Алексіевіч, як вядома, англійскай мовы не ведае.







### #студэнтысупраць

Такі тэг у твітары — інтэрнэт-сетцы для абмену навінамі — прыдумалі студэнты Мінска. Яны пратэстуюць супраць увядзення платы за пераздачу экзаменаў і залікаў.

Не маюць права! — кажуць студэнты. Яны нават заклікалі правесці ў сталіцы Марш салідарнасці і кахання.

Тады ў аўторак рэктар БДУ абвясціў, што ў сераду правядзе сустрэчу са студэнтамі.

«Так, замест маршу пойдзем на сустрэчы», — напісалі арганізатары ў інтэрнэце. Студэнты спадзяюцца дабіцца свайго.

Сяргей Гезгала

### Сцісла

**«Альфа Радыё» павялі на банкруцтва**

Эканамічны суд Мінска адкрыў вытворчасць па справе аб банкруцтве адной з найстарэйшых радыёстанцый Беларусі — ЗАТ «Альфа Радыё». Летась дзяржпакет акцый кампаніі быў перададзены ў апаратыўнае кіраванне выдавецкаму холдынгу «Советская Белоруссия».

**У Ізраіль без візаў**

Набыло моц пагадненне аб бязвізавым рэжыме паміж Беларуссю і Ізраілем.

**Клічко больш не чэмпіён свету**

Бой за тытул чэмпіёна свету па боксе па версіях IBF, WBA, WBO, IBO праходзіў у Дзюсельдорфе. Клічко пратрымаўся ўсе 12 раўндаў, аднак суддзі аднагалосна прысудзілі перамогу ягонаму суперніку Тайсану Ф'юры. Такім чынам, Клічко пацярпеў першае паражэнне за 11 гадоў.

ЯМ

### Апытанні на nn.by

**Ці правільна дзейнічалі туркі, збіўшы расійскі Су-24?**

| | | |
|---|---|---|
| Правільна | 803 | 50% |
| Няправільна | 207 | 12% |
| Фармальна правільна, але неразумна | 299 | 19% |
| Замала фактаў маем, каб ацаніць | 306 | 19% |

Прагаласавала 1615 карыстальнікаў

### Самае чытанае на nn.by за 25 лістапада — 1 снежня

1 Цёмная гісторыя з затрыманым на вакзале «баевіком»
2 Расійская авіяцыя разбамбіла турэцкі гуманітарны канвой на памежным пераходзе, 7 забітых
3 Масавае з'яўленне прарасійскіх арганізацый у Беларусі супала з адкрыццём «Рассупрацоўніцтвам» «цэнтраў навукі і культуры» — дасье
4 Мінскі кухар абрабаваў саўну пасля праведзеңай там ночы з дзвюма дзяўчынамі
5 Відэа венгерскага дальнабойшчыка, абуранага паводзінамі мігрантаў ля тунэля пад Ла-Маншам, стала хітом Ютуба
6 На Случчыне адзначылі 95-я ўгодкі антыбальшавіцкага паўстання
7 Як прапіць сваю хату і сваю краіну
8 Як украінцы становяцца хахламі
9 Вёска, якую кантралявалі бандэраўцы: Повіць Кобрынскага раёна
10 Былыя КВН-шчыкі з Днепрапятроўска знялі кліп пра байцоў за «рускі свет»

# Юрый Царык: Любы вайсковы спецыяліст скажа, што ў расійскай авіябазе няма сэнсу

Старшыня назіральнай рады Цэнтра стратэгічных і замежнапалітычных даследаванняў, кіраўнік сайта газеты «Звязда» Юрый Царык пра перспектывы расійскай вайсковай базы ў святле апошніх падзей.



**«Наша Ніва»: Як на беларуска-расійскіх перамовах аб вайсковай базе ў Бабруйску можа адбіцца нядаўні інцыдэнт са збітым расійскім бамбардзіроўшчыкам Су-24?**

**Юрый Царык:** Строга кажучы, інцыдэнт ніяк не павінен адбіцца на перамовах. Бо пазіцыя беларускага боку і так заключаецца ў тым, што стварэнне базы немэтазгодна. А такі інцыдэнт, які адбыўся з расійскім самалётам на Блізкім Усходзе, толькі пацвярджае, што гэта не толькі немэтазгодна, але і рызыкоўна. Канечне, гэта дае дадатковыя аргументы ў перамовах і яшчэ больш узмацняе пазіцыі беларускага боку.

**«НН»: Вы пісалі, што размяшчэнне такой базы ставіць Беларусь пад удар у выпадку гіпатэтычнага канфлікту Расіі з трэцяй сілай.**

**ЮЦ:** Гэта безумоўна. І незалежна ад збіцця Су-24. Размяшчэнне расійскай базы на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца ліквідацыяй статуса Беларусі як краіны, што аказвае добрыя паслугі, міратворчага боку. Бо яна стане часткай вайсковай структуры на баку Расіі. Гэта калі не знішчае «Мінскі працэс», то вельмі моцна яго ўскладняе. Ну а выпадак Турцыі пацвярджае, што, маючы на сваёй тэрыторыі вайсковую інфраструктуру Расіі, расійскія самалёты, мы не можам быць застрахаваныя ад таго, што можа быць парушаная паветраная прастора Украіны. Такія выпадкі лёгка сабе ўявіць. Таму, безумоўна, для нас гэта дадатковыя рызыкі.

**«НН»: Наколькі ў беларускага боку ў прынцыпе моцная пазіцыя ў перамовах з Расіяй па базе?**

**ЮЦ:** Цалкам моцная. Наша пазіцыя абазначаная, і яна прынцыповая. Для беларускага боку пытанне на гэтым закрытае. Не мы яго адкрывалі ў чэрвені, у жніўні. Расійскія калегі пачалі рух у аднабаковым парадку. У Беларусі ёсць дастаткова аргументаў, каб абгрунтаваць сваю пазіцыю. Для вайсковага спецыяліста няма праблем паказаць, што ні з абарончых пазіцыі, ні з якіх іншых база не мае сэнсу.

**«НН»: Літаральна тыдзень таму начальнік апаратыўнага ўпраўлення галоўкамата Паветрана-касмічных сіл Расіі Аляксандр Ляпкін заявіў, што дакумент аб авіябазе ўжо ўзгоднены з беларускім бокам.**

**ЮЦ:** Яны заўсёды так кажуць. І раней такое казалі. Гэта такая манера перамоваў.

**«НН»: Нядаўна Аляксандр Лукашэнка на перамовах з Ільхамам Алівым сказаў, што «свет ашалеў». Наколькі доўга Беларусь зможа захоўваць нейтралітэт у такім свеце?**

**ЮЦ:** Я лічу, што сітуацыя даволі адкрытая. Адкрытая ў тым сэнсе, што яшчэ не прадвызначаная. Пазіцыя Беларусі на дээскалацыю канфліктаў уплывае на рэгіён, дапамагае эсклацыю стрымліваць. Чым больш акуратна мы сябе будзем паводзіць, пры гэтым не правакуючы ўсходніх партнёраў, тым даўжэй можна пазбягаць канчатковай эскалацыі ў нашым рэгіёне. І другі момант у тым, што ёсць шмат пераменных у нашай сітуацыі. На сёння падыходзіць дэдлайн па мінскіх пагадненнях, які павінны ці быць выкананы, ці прызнаныя, што невыкананыя. Другое вядзе за сабой санкцыі дадатковыя супраць Расіі. Рэзкае пагаршэнне сітуацыі можа адбыцца літаральна заўтра. Мы павінны спадзявацца, што на міжнароднай арэне прастора для перамоваў, разумнага дыялогу яшчэ захоўваецца.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



Цытата

**Лукашэнка: Свет ашалеў**

«Свет ашалеў. Вы бачыце, што адбываецца. І ў гэтым бурным, непрадказальным свеце нам сёння жыць, а дакладней нават выжываць. І мы трымаць павінны адзін аднаго для таго, каб супрацьстаяць тым пагрозам, якія сёння існуюць у свеце. Мы пра гэта таксама казалі, і гэта не ўтойваем», — сказаў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прэзідэнтам Азербайджана Ільхамам Алівым у Мінску.

# Чым займаецца Таццяна Караткевіч?

«Выбары» скончыліся, і перастала гучаць прозвішча былой кандыдаткі ад кампаніі «Гавары праўду». «НН» вырашыла прасачыць, чым жыла апошнія паўтара месяца Таццяна Караткевіч.

Амаль адразу пасля выбараў Таццяна Караткевіч разам з кіраўніком свайго перадвыбарчага штаба Андрэем Дзмітрыевым наведалі Брусэль і Вашынгтон, там яны мелі сустрэчы з еўрапейскімі чыноўнікамі і еўрапарламентарыямі, а таксама з прадстаўнікамі Дзярждэпартамента ЗША.

«Самае галоўнае сёння для нас — захаваць падтрымку ў грамадстве нашых ідэяў, якія ёсць на сёння, і зрабіць так, каб да 2020 года яна захавалася і мы ўжо не стартавалі з нуля, як у папярэдняй кампаніі, а ўжо мелі падтрымку як лідараў, так і праграмаў», — казала Караткевіч у Вашынгтоне.

У кастрычніку Караткевіч запісала відэазварот з нагоды Дня памяці ахвяр палітычных рэпрэсій. Праўда, на акцыю, якую 29 кастрычніка ладзіў Мікалай Статкевіч ля будынка КДБ, яна не прыйшла. Не было Караткевіч і на шэсці на Дзяды ў Курапаты.

Лістапад для Караткевіч пачаўся наведваннем «Кастрычніцкага эканамічнага форуму», дзе яна была адзіным апазіцыйным палітыкам сярод слухачоў. Не абмінула яна і адкрыццё кінафестывалю «Лістапад». Пра выступ Караткевіч з залы на адкрыцці нават узгадалі на афіцыйным сайце фэсту. Увогуле ж, наведваць культурныя і спартыўныя мерапрыемствы стала добрай традыцыяй для палітыка. Яна была на канцэрце памяці Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна ў філармоніі, а таксама на гульні «Крумкачоў», калі каманда афармляла выхад у вышэйшую лігу.

7 лістапада ў актавай зале гатэля *Crowne Plaza* адбыўся ўстаноўчы сход «Гавары праўду», на якім прысутнічала 65 чалавек. Па яго выніках Таццяна Караткевіч стала кіраўніком арганізацыі. Афіцыйная пасада Андрэя Дзмітрыева цяпер гучыць так: «старшыня Рэспубліканскай рады «Гавары праўду». На гэтым пасяджэнні Таццяна Караткевіч агучыла, што «ГП» будзе фарміраваць «спіс ТаК» — будучых кандыдатаў у дэпутаты ад апазіцыі на парламенцкіх выбарах 2016 года. Паводле яе словаў, гэты спіс будзе фарміравацца незалежна ад партыйнай прыналежнасці вылучэнца.

30 кастрычніка былі названыя прозвішчы 10 першых прадстаўнікоў «Гавары праўду» на парламенцкіх выбарах. Імі сталі рэгіянальныя актывісты з Заслаўя, Магілёва, Мікашэвіч і іншых гарадоў.

Пазней Караткевіч агучыла ідэю правядзення перад выбарамі агульнанацыянальнага форуму, які б аб'яднаў прыхільнікаў «мірных пераменаў». Праўда, пакуль не называюцца даты, калі гэты форум можа быць праведзены.

«Гавары праўду» не далучылася да правацэнтрысцкай кааліцыі, якую па патрабаванні еўрапейскіх партнёраў дэкларавалі АГП, БНФ, хрысціянскія дэмакраты і рух «За Свабоду», аднак пазітыўна ацаніла такое аб'яднанне.

А вось актуальныя падзеі ў свеце спадарыня Караткевіч не імкнецца каментаваць. Напрыклад, яна так і не выказалася аб збіцці на мяжы Турцыі і Сірыі расійскага знішчальніка Су-24.

**ЗП**

Офіс «Гавары праўду» размяшчаецца на шостым паверсе будынка па адрасе Няміга, 3 — там дзе гандлёвы цэнтр «Няміга». У офісе побач са сцягам арганізацыі стаяць два беларускія сцягі — бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны.



Таццяна Караткевіч з актывістамі сацыял-дэмакратычнай партыі.

# Статкевіч з'ездзіў у Анголу

Былы палітвязень Мікалай Статкевіч наведаў Луанду ў Анголе, дзе праходзіла сустрэча Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу. Некалі Статкевіч узначальваў Сацыял-дэмакратычную партыю ў Беларусі, якая мела ў Сацінтэрнацэ дарадчы голас.

«Кіраўніцтва Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу шмат рабіла для майго вызвалення, — дзеліцца Статкевіч. — І рэзалюцыі прымалі, і генеральны сакратар Луіс Аяла, які сам пры Піначчэ ў чылійскай турме сядзеў, у Беларусь прыязджаў у 2011 годзе. Мне казалі, што Луіс нават выходзіў на нашага Лукашэнку праз Ільхама Аліева. Таму калі Луіс патэлефанаваў і прапанаваў нам прыехаць, то я мусіў пагадзіцца.

Не абышлося без казуса — з-за маёй кепскай англійскай я недачуў і падумаў, што Рада адбудзецца ў Лондане. А насамрэч — у Луандзе.

Бянтэжыла не колькі адлегласць (суткі лёту), а найбольш звесткі пра краіну. У Анголе 30 гадоў ішла вайна паміж прасавецкімі і празаходнімі групоўкамі. Першыя перамаглі. І ў выніку ў краіне 36 гадоў бязьменны прэзідэнт. Ангола здабывае шмат нафты і алмазаў. Таму займае сярэднія месца ў свеце па ўзроўні ВУП. Але пры тым мае першыя месцы па карупцыі і дзіцячай смяротнасці. Сярэдняя працягласць жыцця — 51 год.

Узнікла праблема маральнага характару — з інтэрнэту мы даведаліся, што ў чэрвені ў Луандзе былі арыштаваныя 15 маладых людзей. За тое, што чыталі кнігу пра негвалтоўны супраціў. У лістападзе павінен быў пачацца суд над імі. Дэманстрацыя ў іх абарону была забаронена.

Таму пасля слоў удзячнасці калегам за салідарнасць я мусіў звярнуцца да ўладаў з просьбай аб вызваленні маладых людзей. Рэакцыя на мой выступ прадстаўнікоў улады была вельмі негатыўнай. А прадстаўнікі партый суседніх краінаў потым увесь час падыходзілі і дзякавалі «за праўду».

Адна дэталь — 80% пасажыраў самалёта з Луанды былі кітайскія «рабацягі». Пры тым што ангольцы пакінулі ў мяне ўражанне працавітых і старанных людзей. Як я зразумеў, улады набралі кітайскія крэдытаў. У выніку краіна мае пазыкі, але не мае працы для сваіх грамадзянаў».

**ЗП**

# Цёмная гісторыя з затрыманым на вакзале «баевіком»

У ноч на 26 лістапада на вакзале ў Мінску быў **затрыманы беларус**, які нібыта ўдзельнічаў у баявых дзеяннях на тэрыторыі Украіны.

У беларускім заканадаўстве ёсць крымінальны артыкул за наёмніцтва. Ім сілавікі палохалі ад пачатку канфлікту ва Украіне. Маўляў, удзельнікі баявых дзеянняў будуць прыцягнутыя да адказнасці. А зусім нядаўна начальнік контртэрарыстычнага аддзялення КДБ Дзяніс Васіпчык паведаміў, што рыхтуюцца змены, паводле якіх пасадзіць могуць не толькі тых, хто атрымліваў за наёмніцтва грошы, але і тых, хто ваюе з ідэйных перакананняў.

Гэта першы афіцыйна пацверджаны выпадак затрымання ўдзельніка баёў ва Украіне. Хаця летась «на суткі» саджалі барысаўца Аляксандра Маўчанава і жыхара Баранавіч Зміцера Палойку. Падчас зняволення спецслужбы ўсяляк спрабавалі раскруціць, ці бралі хлопцы ўдзел у вайне на Данбасе. Тыя ўсяляк адмаўлялі. У выніку іх вызвалялі.

І Палойка, і Маўчанаў, вырашыўшы ў Беларусі маёмасныя пытанні, вярнуліся ва Украіну. І ўжо там абвяшчалі, што сапраўды трымалі ў руках зброю на ўсходзе Украіны.

Праходзіла неафіцыйная інфармацыя, што за кратамі ў Беларусі магла апынуцца снайперка Наталля Красоўская, якая ваявала на баку «ДНР», але гэтыя звесткі не пацвярджаліся.

**Неймаверна, але факт**

Беларусь затрымлівае байца «Правага сектара» (!).

З выбухоўкай (!).

І пісталетам (!).

І ўкраінскай сімволікай. І даверчай граматай ад «ПС» (!).

Дзякуючы пільнасці міліцыі на вакзале (!).

Бо ён быў у броніку, і той бронік выпіраў (!). Але праз мяжу-то ён пераехаў без праблем.

А яшчэ ў яго была маска з прарэзямі для вачэй (о-О).

І вось з усім гэтым ён ехаў на радзіму.

Вядома, ваявалі ў Данбасе, у тым ліку, неадэкваты ўсякія. Але ўся гэтая інфармацыя выглядае як спектакль, разыграны для Расіі і мясцовай публікі.

Можна было б падумаць, што такога чалавека насамрэч няма, як не было ў 2010-м арматуры ў гаражы ў Малінаўцы, а перад выбарамі 2015-га — двухсот баевікоў, затрыманых на мяжы.

Аднак «Наша Ніва», супаставіўшы факты, прыйшла да высновы, што дадзены чалавек усё-такі рэальны і, прынамсі, ёсць.

**Зброя ў Данбасе**

«Пісталет Макарава тут рэдкасць. На чорным рынку ён каштуе больш за 1000 даляраў. Аўтамат ці кулямёт знайсці ў разы прасцей.
АКС-74 (малагабарытная мадэль аўтамата Калашнікава) каштуе ад 300 да 700 баксаў». Гэтая зброя можа лёгка трапляць у рукі крыміналітэту.

**Неадэкват?**

«Наша Ніва» знайшла старонкі ў фэйсбуку і твітары, якія вёў, імаверна, затрыманы. Яму 28 гадоў, ён з Наваполацка, месцам жыхарства пазначаны Данецк. На старонках шмат фантазій: напрыклад, чалавек хоча стаць дэпутатам Еўрапарламента. Неадэкватнай падаецца і ягоная аўтабіяграфія-рэзюмэ, размешчаная ў інтэрнэце. Сярод сваіх папярэдніх месцаў работы ён называе Аператыўна-аналітычны цэнтр Беларусі, а шукае… работу праектнага менеджара па рэфармаванні «Нафтагазу» Украіны з заробкам 11000 еўра за месяц.

**Ці можа «поехавшій» быць небяспечным для грамадства?**

У прынцыпе, так. Але такія людзі рэдка бываюць здольныя да рэалістычнага планавання, і спецслужбам няцяжка іх выяўляць.

## Як затрымлівалі раней?

Гісторыя з затрыманнем выглядае дзіўнаватай. Быццам ішоў мужык па чыгуначным вакзале, а праз куртку ў яго была бачная бронекамізэлька. Супрацоўнікі транспартнай міліцыі заўважылі гэта, пасля чаго і адбылося затрыманне.

Пасля сілавікі паведамілі, што мяжу гэты чалавек перасякаў на адмыслова нанятым аўтамабілі, а не цягніком ці аўтобусам. Выглядае, што ён шыфраваўся ўвесь час, а ў Мінску гэтак па-дзіцячаму папаліўся на бронекамізэльцы? Магчыма, спецслужбы вялі яго працяглы час і затрыманне на вакзале стала лагічным вынікам сачэння.

Супраціву мужчына не аказваў, але, як кажуць міліцыянты, паводзіў сябе неадэкватна.

## Што знайшлі пры ім?

У затрыманага быў знойдзены сапраўдны джэнтэльменскі набор «баевіка». Пісталет, два пашпарты (абодва беларускія), самаробнае выбуховае прыстасаванне на аснове аскепкавай гранаты ВОГ-17 да станковага гранатамёта, электронныя носьбіты, даведка аб удзеле ў антытэрарыстычнай аперацыі на тэрыторыі Украіны, сцяг «Правага сектара». Адразу пачалі жартаваць, што не хапала толькі «візітоўкі Яраша». Даведацца, ці ён сапраўды ўсё гэта меў з сабой, ці прадэманстравана было для ўзмацнення карціны, пакуль не ўяўляецца магчымым.

## А ці быў хлопчык?

Першая думка, якая ўзнікла ў многіх: а ці не пастаноўка гэта спецслужб? Не, 28-гадовы ўраджэнец Наваполацка сапраўды існуе.

Беларускі баец з батальёна ДУК «Правага сектара» на ўмовах ананімнасці пагадзіўся расказаць пра затрыманага.

«Ягоны пазыўны Друг Дук. На жаль, такія індывідуумы таксама сустракаюцца ў шэрагах батальёна. Ён быў у тактычнай групе камандзіра Валавіка, працаваў на данецкім накірунку. Наколькі нам вядома, за той час, што ён знаходзіўся ва Украіне, не раз ездзіў у Беларусь. Казаў, што спецслужбы ведаюць пра ягоныя візіты. Ад гэтага ў нас былі падазрэнні, што можа з'яўляцца агентам. Беларусы з ДУКа кантактавалі з ім мінімальна, у тактычную групу «Беларусь» яго не ўзялі. У псіхалагічным плане ён дзіўнаваты персанаж. Можа, ён проста прыдурак, а можа, падкінулі зброю. Бо трэба быць вельмі дурным, каб ехаць у бронекамізэльцы дамоў. Магу сказаць толькі адно, што даведка гэтая сапраўдная», — расказаў нам беларус з батальёна ДУК «Правага сектара».

## Іншае меркаванне

Яшчэ больш рэзкі ў ацэнцы асобы Друга Дука папулярны патрыятычны сайт 1863x.com. Аўтар партала Джон Сільвер расказвае, што меў у інтэрнэце кантакты з затрыманым, які расказваў неймаверныя байкі пра тое, што ён служыў у Аператыўна-аналітычным цэнтры, яго добрай знаёмай з'яўляецца Дар'я Домрачава, а намеснік старшыні КДБ адпраўляў яму пасылку.

«Натуральна, калі чытаеш такую бздуру, то ў галаве ўзнікаюць словы «чалавек, у якога не ўсе дома», — мяркуе Сільвер.

«Адбылася звычайная бытавая крымінальная гісторыя. Мабыць, ён правёз з сабой зброю — яго за гэта затрымалі. Ніякай канспіралогіі. Якім бы ён «прыдуркаватым» ні быў, гэта не апраўдвае яго дзеянні. Знаходзіцца са зброяй на вакзале недапушчальна», — прыходзіць да высновы аўтар 1863x.com.

## Ці ёсць небяспека для Беларусі?

Вайна прыцягвае розных людзей. І герояў, і рамантыкаў, і шваль. Напрыклад, былы мінскі антыфашыст Ян Мельнікаў, які ваюе ў тым самым батальёне «Правага сектара», казаў у інтэрв'ю «НН»: «Калі хтосьці марыць пра ўзброеную барацьбу ў Беларусі, то ў яго праблемы з галавой».

Але ёсць і іншыя прыклады. Чаго вартыя расійскія баевікі Матарола і Бабай ці берасцеец Маджахед, які ваяваў у батальёне «Тарнада». Гэты апошні выявіўся сапраўдным садыстам, які здзекаваўся з людзей. Цяпер ён сядзіць у турме ў Кіеве.

Ёсць прыклад мар'інагорскага спецназаўца Белага, які, наслухаўшыся казак пра «распятага хлопчыка», кінуў усё і паехаў на Данбас. Вяртанне ў Беларусь такіх людзей, а тым больш са зброяй, сапраўды складае вялікую небяспеку.

Найбольшая небяспека сыходзіць не ад тых, хто ідэйна ваюе на баку Украіны. Небяспека можа прыйсці праз адкрытую мяжу Беларусі з Расіяй. На мяжы Беларусі з Украінай ёсць пільны памежны кантроль. А вось між Бранскам і Гомелем кардону няма. Перацяканне зброі з Данбаса ўжо прывяло да рэзкага росту злачыннасці ў Растоўскай вобласці Расіі. І гэта ўжо рэальная праблема, вырашэння якой пакуль не прапануецца.

## Хто ж ён, гэты «Друг»

Што рабіў гэты Друг ва Украіне? Ці быў на фронце? Для чаго ён вяртаўся ў Беларусь? Што азначае зброя? Была яна ягоная ці яму яе падкінулі? Ці ён адэкватны? Калі так, то ці маніпуляваны? Гэтыя пытанні пакуль застаюцца без адказу.

**Зміцер Панкавец**

# Лукашэнка хоча перасадзіць беларусаў на кітайскія аўтамабілі

Аляксандр Лукашэнка правёў нараду па вытворчасці легкавых аўтамабіляў «Джылі» ў Барысаве. «Была пастаўлена задача — знайсці краіну, якая гатова нам дапамагчы на аснове іх і нашых тэхналогій стварыць прымальны аўтамабіль, аўтамабіль для нашага народа, каб ён і па якасці, і па цане быў для нас выгадны», — патлумачыў кіраўнік краіны.

Лукашэнка заявіў, што ў цяперашні час завод будуецца, у тым ліку з удзелам кітайскага крэдыту. Плануецца, што з запускам першай чаргі тут будзе выпускацца ў год да 60 тысяч аўтамабіляў і 120 тысяч з запускам другой чаргі.

«Самае галоўнае: дзе будзем прадаваць? Ці будзе рынак для нашых аўтамабіляў? — звярнуўся Аляксандр Лукашэнка да чыноўнікаў. — Зразумела, унутраны рынак мы забяспечым, створым адпаведныя ўмовы». Ён спадзяецца, што «Джылі» — дакладней «БелДжы», ягоны беларускі брэнд — стане беларускім народным аўтамабілем. Пакуль жа брэнд спрабуе заваяваць месца хаця б на беларускім рынку.

Паводле падлікаў аналітычнага агенцтва «Аўтастат», марка займае 10-е месца па продажах новых аўтамабіляў за студзень-кастрычнік гэтага года, адстаючы ў разы ад лідараў.

Што да канкрэтных мадэляў, два аўто ад «Джылі» займаюць 19-е і 20-е месца ў адпаведным рэйтынгу.

Ягор Марціновіч

**Самая папулярная мадэль «Джылі» — «Эмгранд» — каштуе ад $12500**




**«Джылі» прадае ў Беларусі тры мадэлі.**

**Джылі SC7** — аўто эканомкласа коштам ад $8500, аналаг танных мадэляў «Шкоды» і «Фальксвагена», якія карыстаюцца большай папулярнасцю ў беларусаў. Гэта аўто з рухавіком 1,8 л магутнасцю 126 к.с. з механічнай каробкай перадач.

**Джылі LC Крос** — кампактны ўседарожнік-хэтчбек, які каштуе ад $6100. Рухавік тут маленькі, усяго 1,3 л магутнасцю 85 к.с.

**Джылі Эмгранд X7** — кампактны красовер, які, у адрозненне ад іншых «Джылі», можа мець паўаўтаматычную каробку перадач. Рухавік тут большы, 2 л, магутнасцю 139 к.с. Колы высокія, таму можна катацца па дрэннай дарозе.

**Лічба продажаў новых аўтамабіляў (з улікам лёгкіх камерцыйных мадэляў)***

| | Марка | Колькасць | Доля рынка |
|---|---|---|---|
| 1 | Рэно | 6881 | 16,5% |
| 2 | Фальксваген | 5169 | 12,4% |
| 3 | Хёндэ | 4767 | 11,4% |
| 4 | Нісан | 4087 | 9,8% |
| 5 | Кія | 3493 | 8,4% |
| 6 | Лада | 2679 | 6,4% |
| 7 | Шкода | 2039 | 4,9% |
| …10 | Джылі | 983 | 2,4% |

*продажы за студзень-кастрычнік 2015 года

**Самыя папулярныя мадэлі ў продажах новых аўтамабіляў***

| | Мадэль | Колькасць |
|---|---|---|
| 1 | Фальксваген Пола | 3849 |
| 2 | Хёндэ Акцэнт | 3449 |
| 3 | Рэно Сандэра | 2051 |
| 4 | Рэно Логан | 1989 |
| 5 | Рэно Дастар | 1922 |
| 6 | Кія Рыа | 1782 |
| 7 | Нісан Альмера | 1727 |
| …19 | Джылі Эмгранд | 481 |
| 20 | Джылі SC7 | 422 |

*продажы за студзень-кастрычнік 2015 года

## У «Драздах-2» прапануецца пабудаваць пяць новых катэджаў…

…Аднак іх ужо размеркавалі.

У Мінску працягваецца грамадскае абмеркаванне забудовы раёна былой вёскі Вяснінка, дзе за апошнія гады чыноўнікам раздалі некалькі дзясяткаў надзелаў пад будаўніцтва прыватных дамоў. Гэты раён атрымаў неафіцыйную назву «Дразды-2».

Асноўную ўвагу распрацоўшчыкі праекта дэтальнага планавання надаюць сацыяльна-забаўляльным аб'ектам — гатэлю, тэніснаму цэнтру, цэнтру мастацкай гімнастыкі...

Аднак насельніцтва цікавіцца не гэтым. У «Драздах-2» запланаваныя новыя ўчасткі пад будаўніцтва. Таму гараджане, чые дамы ідуць пад знос, просяць выдзеліць ім гэту зямлю ў якасці кампенсацыі.

«Наша Ніва» прааналізавала ранейшую карту забудовы і тую, якая, найхутчэй, будзе прынята па выніках грамадскага абмеркавання нягледзячы на абурэнне грамадзянаў.

Паводле дакумента, прадугледжана стварэнне пяці новых участкаў пад катэджы, адзін з іх — на беразе вадасховішча.

Хто атрымае магчымасць пабудаваць катэджы?

«Яны ўжо размеркаваныя і афармленыя», — патлумачыла прадстаўніца «Мінскграда» Вольга Філатава, адказваючы на пытанне пра ўчасткі, спраектаваныя ў «Драздах-2».

Такім чынам, мінчукі, чые прыватныя дамы ідуць пад знос, не змогуць прэтэндаваць на месца ў Вяснінцы.

Без элітнай нерухомасці ў Драздах пакуль заставаліся старшыня Мінгарвыканкама Андрэй Шорац, старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра, старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч, міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі, міністр інфармацыі Лілія Ананіч і некаторыя іншыя высокія чыноўнікі.

ЯМ

## Еўра можа стаць таннейшым за даляр ужо ў студзені 2016 года

Курс еўра можа знізіцца да 0,8255, заявіў адказны за інвестыцыйныя рашэнні *Deutsche Bank* эканаміст Ульрых Штэфан. Эксперты аднаго з найбуйнейшых інвестыцыйных банкаў *Goldman Sachs* прагназуюць, што еўра будзе каштаваць танней за даляр ужо да студзеня 2016 года.

Удзельнікі рынку настроены на тое, што на наступным пасяджэнні кіраўніцтва Федэральнай рэзервовай сістэмы ЗША 15—16 снежня будзе абвешчана аб даўно чаканым пачатку цыкла павышэння працэнтных ставак у Амерыцы, што спрыяе зніжэнню курсу еўра.

Акрамя таго, Еўрапейскі цэнтральны банк выказваўся за тое, каб працягнуць і пры неабходнасці пашырыць палітыку танных грошай.

На 01.12 курс даляр/еўра складае 1,06.

Dw.de

## Жонка Калаўра пайшла на павышэнне

Цяпер яна выканаўчы дырэктар банка, які належыць Нацбанку.

Ларыса Калаўр, жонка старшыні Нацбанка Паўла Калаўра, паднялася па кар'ернай лесвіцы. Раней яна была галоўным бухгалтарам банка «Масква-Мінск», цяпер жа яе асоба пазначаная як выканаўчы дырэктар таго ж банка.

Яшчэ ад пачатку года Міжнародны валютны фонд раіў Нацбанку пазбавіцца банка «Масква-Мінск». Гэтую фінансавую арганізацыю беларуская дзяржава выкупіла за $55 мільёнаў у расійскіх уласнікаў, бо тыя аказаліся пад санкцыямі Еўрасаюза.

Да ведаў і ўменняў Ларысы Калаўр пытанняў не было, аднак яе высокая пасада ў банку «Масква-Мінск» магла ўспрымацца як канфлікт інтарэсаў з мужам.

На новым месцы Ларыса Калаўр курыруе ўпраўленне ўнутранага кантролю, аддзел планавання і аналізу, а таксама аперацыйны дэпартамент.

ЯМ

## Мінгандлю ўзмоцніць кантроль за дакладнасцю рэкламы

Міністэрства гандлю Беларусі мае намер узмацніць кантроль за дакладнасцю рэкламы. Пра гэта заявіла намесніца міністра гандлю Ірына Наркевіч.

«Мінгандлю мае намер узмацніць кантроль за рэкламай, перш за ўсё, за яе верагоднасцю. У першую чаргу гэта тычыцца інфармацыі аб цане і ўласцівасцях тавараў і паслуг», — адзначыла яна.

У прыватнасці, яна прывяла факты, калі падчас маштабных распродажаў гандаль, у тым ліку інтэрнэт-крамы, паказвае завышаны працэнт зніжкі. Пры гэтым намеснік міністра заявіла, што міністэрства мае намер дзейнічаць акуратна і ўзважана падыходзіць да вырашэння пытанняў аб адказнасці. Стаўка мае быць зроблена на павышэнне прававой пісьменнасці зацікаўленых асоб.



**Намесніца міністра гандлю Ірына Наркевіч выступае за большы кантроль сумленнасці ў гандлі.**

Змяненняў у закон аб рэкламе ў найбліжэйшы час уносіць не плануецца. «Цяпер самае галоўнае для бізнэсу — стабільнасць, павінны быць зразумелыя правілы гульні», — падкрэсліла чыноўніца.

## Сцісла

### Кватрплата нязначна падаражала

30 лістапада ўрад прыняў пастанову, паводле якой з наступнага дня выраслі тарыфы на большасць камунальных паслуг. Электраэнергія, ацяпленне і газ падаражалі на 3,8%. Па-ранейшаму абмяркоўваецца, ці варта з 1 студзеня павышаць тарыфы на 20% праз спагнанне з насельніцтва падатку да дададуню вартасць.

### Юань стаў рэзервовай сусветнай валютай

Міжнародны валютны фонд уключыў кітайскі юань у кошык рэзервовых валют. У гэтым спісе раней былі даляр, еўра, брытанскі фунт стэрлінгаў і японская ена.

### Валютная выручка Беларусі знізілася на $9 мільярдаў

Эканоміка Расіі абвалілася разам з цэнамі на нафту і ў выніку санкцый за Украіну. А беларуская гаспадарка была прывязаная да расійскай. Таму за студзень—кастрычнік валютныя ўліванні скараціліся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на $4,6 мільярда, ці на 30,1%. Агулам жа выручка ўпала на 9 млрд.

### Падаткавікі прапануюць беларусам выйграць да 5 мільёнаў

Для гэтага трэба захаваць любы чэк і падаць заяўку на ўдзел у рэкламнай гульні «Касавы чэк як шчаслівы квіток». Правілы размешчаныя на сайце Міністэрства па падатках і зборах. Рэкламная гульня пройдзе з 1 па 27 снежня ў гандлёвых цэнтрах пяці гарадоў: у Брэсце («Лагуна»), Гродна («Old City»), Слуцку («Маяк»), Магілёве («Магніт») і Мінску («Экспабел», «Замак» і «Новая Еўропа»).

### Самая буйная прыватная кампанія Светлагорска банкрутуе

Па заяве падатковай інспекцыі Эканамічны суд Гомельскай вобласці распачаў справу аб банкруцтве самага вядомага бізнэсу рэгіёна — кампаніі «Белая Русь», якая належыць Пятру Кузьмянку. З лістапада па сярэдзіну лютага на «Белай Русі» будзе дзейнічаць ахоўны перыяд, прызначаны судом.

### На змену Кіпру галоўным інвестарам у Расею сталі Багамы

Паводле звестак Банка Расіі, за першую палову 2015 галоўным інвестарам у Расею сталі Багамскія астравы, а не Кіпр, як было раней. У выглядзе прамых замежных інвестыцый у Расею за першую палову 2015 паступіла $4,3 млрд — гэта зусім малая сума, з улікам аб'ёму расійскай эканомікі. Для параўнання, у 2013 годзе яна складала $69 мільярдаў.

ЯМ, СГ

# Ярмошына, Ермакова і Шчоткіна расказалі пра свае зарплаты і пенсіі

Якія даходы маюць беларускія чыноўнікі?

«Паколькі я яшчэ працую, то атрымліваю агульнаграмадзянскую пенсію, — кажа старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. — Яе памер цяпер — 3,2 мільёна рублёў, натуральна, ён будзе іншы (пры завяршэнні працоўнай дзейнасці. — «НН»), але я не ведаю які. Калі ў мяне з'явіцца на гэта права, я звярнуся і мне палічаць. У мяне пенсія будзе 65% ад акладу. Але ў любым выпадку я даўно зарабіла пенсію дзяржаўнага служачага, якая большая за звычайную». Праўда, выплачваць яе пачынаюць толькі ад таго моманту, калі дзяржаўны служачы перастае працаваць.

Па словах Ярмошынай, яе зарплата складае «каля 20 мільёнаў».

Апроч таго, Аляксандр Лукашэнка ў канцы лістапада прысвоіў Ярмошынай найвышэйшы клас дзяржаўнага служачага. Гэта дазволіць ёй атрымліваць даплату да заробку.

Адметна, што, паводле заканадаўства, старшыня ЦВК не ўваходзіць у спіс пасадаў, якія могуць атрымаць найвышэйшы клас.

«У мяне пенсія па дзяржслужбе — 8,5 мільёна рублёў. Пенсія добрая, можна на гэтыя грошы пражыць пенсіянеру. Ужо не трэба шмат касцюмаў, абутку ці сумкі мяняць, можна хадзіць з тымі ж самымі, — прызнаецца экс-кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова. — Я адна, таму для мяне гэтых грошай цалкам дастаткова. Калі б трэба было дапамагаць дзецям, то, вядома, было б складаней. Хоць ва ўсіх па-рознаму. Да прыкладу, маёй цётцы 80 гадоў, яна атрымлівае пенсію каля 3,2 мільёна рублёў. Яна і сябе забяспечвае, яшчэ дапамагае і маёй сястры».

Экс-кіраўніца Нацбанка не хавае, што ў яе ёсць «дапамога»: «Я ў «Белзнешэканамбанку» з'яўляюся старшынёй назіральнай рады, маю дадатковую капейчыну».

Акрамя таго, Надзея Ермакова эканоміць на гародніне, якую вырошчвае на сваім агародзе: «Увесну ў мяне з'явіўся прысядзібны ўчастак у доме, які ў Мінску, руж там яшчэ няма, але дрэвы ўжо ёсць, і агуркі вырошчвала, і памідорчыкі ўжо свае нават закатала. Я з задавальненнем працую на зямлі. Замест падарожжаў я лепш буду працаваць на зямлі».

Міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна не адказала, якую менавіта пенсію атрымлівае. Сказала толькі, што, «як і для ўсіх працуючых пенсіянераў, памер пенсіі выплачваецца абмежаваны, з каэфіцыентам 1,3». Адметна, што міністэрства працы заклікае сталых беларусаў не афармляць пенсію адразу, а назапашваць яе. А вось сама Шчоткіна ініцыятыву не падтрымала і папрасіла плаціць ёй грошы адразу.

**Паводле Дзмітрыя Бобрыка, Finance.tut.by**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына зарабляе каля 20 мільёнаў рублёў.**

## Ярмошына ляціць з сынам у Рым

Як толькі Еўрасаюз прыпыніў санкцыі супраць Лідзіі Ярмошынай, яна купіла пуцёўку ў Італію. Хоча пабачыць, як там «загнівае Захад».

«Я 14 снежня збіраюся туды ляцець, назад — 21 снежня. У Рым. Ужо забраніравала авіябілеты і жыллё. І магу сказаць, што квіткі эканомкласа туды і назад каштуюць 357 еўра. Палячу з Мінска самалётам «Белавія», — падзялілася сваімі планамі Ярмошына.

У Італію Ярмошына паляціць разам з сынам Аляксеем, ён у Рыме ўжо быў.

**СГ**

Дурні

## «Бдзяць»!

Гледачы канцэрта ў Оршы, прысвечанага 85-м угодкам Уладзіміра Караткевіча, магчыма, нічога і не заўважылі. Бо да самага пачатку іх не пускалі ў залу, пакуль мянялі афармленне сцэны, адмыслова зробленае да юбілею пісьменніка-земляка.

Загадчыца раённага аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Ганна Святлова ўбачыла ў афармленні сцэны традыцыйны арнамент, намаляваны чырвонай фарбай на белым фоне. І заявіла, што здалёк гэта можна прыняць за «апазіцыйны» бел-чырвона-белы сцяг. Тэхнічныя работнікі гарадскога цэнтра культуры мусілі выконваць тэрміновы загад — завешваць арнамент стылізаванымі ручнікамі. Але былі настолькі здзіўленыя, што не маглі не падзяліцца ўражаннямі са сваімі знаёмымі. І цяпер у Оршы шырока абмяркоўваюць, наколькі «асцярожнічае» чыноўніца, калі нават арнамент падаецца ёй «крамольным». Асабліва ўражвае, што такія перасцярогі праявіліся ў адмысловы для ўсіх аршанцаў дзень — 26 лістапада, на ўгодкі пісьменніка-земляка Уладзіміра Караткевіча.

Яшчэ пра адну перасцярогу аматары беларускага мастацтва даведаліся 27 лістапада. Аказваецца, Ліна Гатоўская, дырэктарка музея Уладзіміра Караткевіча, нечакана адмяніла канцэрт Сяргея Доўгушава, артыста дзяржаўнай філармоніі, удзельніка *Harmonic Style Project*, *SD* і групы «Вурай». Спявак распавёў, што атрымаў афішынае запрашэнне выступіць, скарэктаваў для гэтага свой канцэртны графік і раптам за дзень да канцэрта атрымаў адмову па электроннай пошце. Разам з прабачэннямі дырэктарка музея патлумачыла артысту прычыны: маўляў, літаральна напярэдадні былі ўнесены змены ў праграму, і замест яго выраашана было ўключыць у канцэрт іншых, мясцовых выступоўцаў.

Дарэчы, Сяргей Доўгушаў такcама лічыць сябе «мясцовым» — ён нарадзіўся на Аршаншчыне, не аднойчы тут выступаў, у тым ліку і ў музеі Уладзіміра Караткевіча.

**Spring96.org**

Цікава ведаць

## Падарунак? Плаці падатак

Абкладаюцца падаткам падарункі на суму 43,66 мільёна рублёў і больш (дамы, кватэры, машыны). Падаткам не абкладаюцца падарункі бацькоў дзецям, дзяцей — бацькам, родных братоў і сясцёр — між сабой. А вось падарунак жаніха нявесце падаткам абкладаецца. Бо жаніх юрыдычна — не сваяк.

## Марава: «Мае словы перакруцілі! Я не казала, што дэкрэт трэба скараціць!»

Сустаршыня Беларускага саюза жанчын, былы міністр працы і сацыяльнай абароны Антаніна Марава трапіла пад увагу СМІ. Сайты масава цытавалі яе словы, што «трохгадовы дэкрэтны адпачынак — гэта марнатраўства».

Аднак сама Марава ў інтэрв'ю «Нашай Ніве» сцвярджае, што яе словы перакруцілі.

**Антаніна Марава:** Я ў прынцыпе не магла гэтага сказаць! Я сказала, што перыяд дэкрэту ў нас вялікі — тры гады. Такое толькі ў нас і ў Расіі. Прычым там аплачваюць 1,5 года, а ў нас усе 3. Да таго ж мы нядаўна павялічылі памер дапамогі, і гэта добра, бо за кошт гэтага павялічылі нараджальнасць, плюс ільготы на жыллё паўплывалі...

Так, я ўзгадвала, што жанчыны нярэдка выходзяць з дэкрэту раней па розных прычынах. Хтосьці заклапочаны кар'ерай, ці не хапае грошай сям'і — ёсць і такая нагода.

**«НН»: Дык, можа, трэба не як павялічыць тыя выплаты? Вы ж самі прызнаяце, што бракуе грошай. Што такое сёння тры мільёны? Менш за $200.**

**АМ:** Для гэтага павінны быць сродкі ў дзяржавы. А тры мільёны — дык за тры мільёны сёння і на працу не так проста ўладкавацца, калі вы ведаеце.

**«НН»: Вы лічыце, што гэта дастатковая сума?**

**АМ:** Я кажу, што ёсць такія сем'і, якія вырашаюць, што жанчына павінна пайсці на працу, каб кар'ера яе не спынялася. І каб больш грошай было ў сям'і, бо і кватэру хочацца, і хочацца мець і іншыя даброты, тут нічога дрэннага няма. А вось каб далей дапамагчы гэтым людзям, калі жанчына раней хоча выйсці на працу, трэба развіваць сямейную інфраструктуру.

**«НН»: Дык ці можа дзяржава павысіць гэтыя выплаты?**

**АМ:** Можа, і можа, але яны павінны быць адраснымі. Можна зрабіць кампенсацыі, калі набылі штосьці для дзіця, прынеслі квіток, і людзям вяртаюць грошы. Гэта складаны механізм, але яго можна старыць.

**«НН»: Вы казалі, што крызісу сям'і сёння няма… Але ў сёлетнім інтэрв'ю газеце «Звязда» ўзгадвалі, што 40% шлюбаў скančваюцца разводам, а 40% сем'яў — няпоўныя. Ці гэта не крызіс?**

**АМ:** Трэба глядзець, што разумець як крызіс. У нас крызісу няма ў тым плане, што нараджальнасць павысілася. А няпоўныя сем'і — гэта дрэнна, канечне.

**Улад Швядовіч**



**Антаніна Марава**

Нарадзілася ў 1950 у Валгаградскай вобласці Расіі. Працавала ў Інстытуце эканомікі Акадэміі навук БССР, Дзяржплане, начальнікам эканамічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта. Міністр працы і сацыяльнай абароны (2001—2006), член савета рэспублікі (2008—2012).

Мае двух сыноў.

# Рассельгаснагляд уз’еўся на Беларусь

З Расіі сталі рэгулярна прыходзіць прэтэнзіі да беларускай прадукцыі.



### Пагражаюць забараніць транзіт садавіны…

Рассельгаснагляд можа забараніць пастаўкі садавіны і агародніны праз Беларусь з краін, у якіх выяўлены падробленыя фітасанітарныя сертыфікаты. Пра гэта пішуць расійскія СМІ.

Паводле іх, рашэнне можа быць прынята па выніках перамоў кіраўніцтва ведамства з міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Леанідам Зайцам. Яны мелі адбыцца ў аўторак 1 снежня.

Расія ўвяла санкцыі супраць паставак садавіны і гародніны з Еўрасаюза. тады еўрапейскія вытворцы сталі пастаўляць яблыкі, апельсіны, кветкі праз сертыфікаты іншых краін — Марока, Македоніі, Туніса, Сербіі ды іншых.

### …узялі ў палон партыі беларускіх сыроў

Рассельгаснагляд арыштаваў партыі беларускіх сыроў з-за павышанага ўтрымання ў іх кансервантаў, паведамілі ва ўпраўленні ведамства па Бранскай і Смаленскай абласцях.

«Аналіз вынікаў даследаванняў па кантролі за бяспекай прадукцыі жывёльнага паходжання, што паступае з Рэспублікі Беларусь у Расійскую Федэрацыю, сведчыць пра недастатковы кантроль за выкарыстаннем кансервантаў у сырах», — сцвярджаюць у Рассельгаснаглядзе.

Так, рэферэнтны цэнтр Рассельгаснагляда выявіў двайное перавышэнне масавай долі кансерванту (натрыю азотнакіслага E251), утрыманне якога нарміруецца ТР МС 029/2012 «Патрабаванні бяспекі харчовых дабавак, араматызатараў і тэхналагічных дапаможных сродкаў», у сыры «Тыльзітар» 45% (ААТ «Рагачоўскі МКК») і сыры *Pesto green* з базілікам і часнаком (ААТ «Малочная кампанія «Навагрудскія дары»).

Узоры прадукцыі былі адабраныя падчас кантролю ў пунктах папярэдняга інфармавання «Красная Горка» і «Красны Камень». Усе грузы суправаджаліся дэкларацыямі аб адпаведнасці і ветэрынарнымі суправаджальнымі дакументамі, выдадзенымі кампетэнтнымі органамі Беларусі.

Упраўленне Рассельгаснагляда накіравала заяўнікам прадпісанні аб прыпыненні дзеяння дэкларацый аб адпаведнасці названых вышэй гатункаў сыроў. Малочная кампанія «Навагрудскія дары» ўжо адрэагавала на прэтэнзіі аб якасці і бяспецы серыйнай партыі і дала гарантыі аб недапушчэнні падобнай сітуацыі ў далейшым.

«Вытворцам харчовых прадуктаў трэба мець на ўвазе, што ўкараненне ў вытворчасць новых тэхналогій можа стаць прычынай выяўлення рызык зніжэння бяспекі харчовых прадуктаў пры ігнараванні патрабаванняў тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза», — рэзюмуе Рассельгаснагляд.

### …затрымалі партыю беларускай жытняй мукі

Рассельгаснагляд затрымаў партыю беларускай жытняй мукі, паведамляе ўпраўленне ведамства па Цвярской і Пскоўскай абласцях.

Спецыялісты аддзела каранціннага фітасанітарнага кантролю на дзяржаўнай мяжы Расійскай Федэрацыі затрымалі машыну ў фітасанітарным кантрольным пункце Пскоўскай вобласці з партыяй жытняй мукі вагой 19,98 тоны.

Прычына затрымання — неадпаведнасць нумара транспартнага сродку, указанага ў фітасанітарным сертыфікаце, і ўстаноўленага пры аглядзе, што з’яўляецца парушэннем п. 3.7.2 палажэння аб парадку ажыццяўлення каранціннага фітасанітарнага кантролю (нагляду) на тэрыторыі Мытнага саюза, зацверджанага рашэннем Камісіі Мытнага саюза ад 18 чэрвеня 2010 года № 318.

Груз вернуты ў Беларусь.

### …забараняюць беларускую малочную і рыбную прадукцыю

Па выніках праверак Рассельгаснаглядам у перыяд з 19 па 23 кастрычніка прынята рашэнне прыпыніць пастаўкі малочнай і рыбнай прадукцыі з 13 прадпрыемстваў Беларусі.

Рассельгаснагляд праінфармаваў ветэрынарную службу Беларусі аб неабходнасці ўвесці часовыя абмежаванні на пастаўкі прадукцыі 13 з 15 праінспектаваных прадпрыемстваў: васьмі рыбаперапрацоўчых і пяці па вытворчасці гатовай малочнай прадукцыі», — гаворыцца ў паведамленні.

### Адначасова

Расія «выявіла» ў турэцкім мясе лістэрыі. Рассельгаснагляд уводзіць абмежаванні на пастаўку мясной прадукцыі.

Абмежаванні будуць накладзеныя на мяса птушкі з турэцкага прадпрыемства *Standart Gida Sanayi ve Ticaret*, нібыта ў сувязі з выяўленнем у мясе птушкі лістэрый. Абмежаванне ўводзіцца з 1 снежня 2015 года.

Раней Рассельгаснагляд абмяжоўваў пастаўкі беларускай малочкі, малдаўскай садавіны і грузінскіх мінеральных вод, нібыта за санітарныя парушэнні, хоць гэтая прадукцыя вылучаецца выдатнай якасцю. Абмежаванні супадалі з перыядамі, калі Расія выстаўляла гэтым краінам палітычныя прэтэнзіі.

Сама Расія не пакрывае сваіх патрэб у прадуктах, хоць з’яўляецца краінай з найбольшай у свеце тэрыторыяй і мае рэгіёны з шыкоўнымі чарназёмнымі глебамі. Яна вымушаная імпартаваць як мяса, так і малако, і гародніну.

Пры гэтым спрабуе выкарыстоўваць імпартныя патокі ў сваіх палітычных мэтах.

### А што ж добрае, калі беларускае кепскае? «Іранскі сыр»

Рассельгаснагляд разлічвае завяршыць працэс узгаднення паставак сыру з Ірана да канца бягучага года, перадае РІА «Новості» са спасылкай на кіраўніка Федэральнай службы па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе Сяргея Данкверта.

«Мы чакаем, што да Новага года «адкрыем» іранскія прадпрыемствы па пастаўках сыру», — сказаў Данкверт. Ён паведаміў, што з іранскім бокам былі падпісаныя папярэднія дакументы і канкрэтызаваны абавязкі па пастаўках.

Раней Рассельгаснагляд анансаваў з’яўленне на паліцах расійскіх крам іранскага сыру. Як адзначылі ў ведамстве, сыры з Ірана на здзіўленне добрыя і яны прайшлі ўсе праверкі.

### Сідорскі: Спробы прычапіцца ўжо набілі аскому

Беларусь пастаўляе ўсе высакаякасныя прадукты, і толькі па ДАСТах. «І ўсё, што спрабуе нехта выявіць — на нейкім там кірмашы ў Омску, ужо ўсім набілі аскому».

Пра гэта заявіў *Tut.by* член Калегіі (міністр) па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай камісіі Сяргей Сідорскі ў кулуарах X міжнароднай канферэнцыі «Еўразійская эканамічная інтэграцыя» ў Маскве.

Беларуска-расійскія канфлікты адносна паставак тых ці іншых прадуктаў харчавання ён заклікаў не называць «гандлёвымі войнамі». «Не трэба пра вайну! Вайна — гэта ў Сірыі. Скančaйце кідацца такімі жорсткімі фармулёўкамі. Ёсць пытанні, якія сёння перашкаджаюць свабоднаму руху тавараў. Трэба сядаць і дамаўляцца, а не даводзіць да крайнасцей».

«Усе супакоіліся, працуюць, але зноў камусьці карціць! Камусьці цікавы пальмавы алей — гэтую тэму спрабуюць навязаць усім. Не трэба Беларусі навязваць гэтыя пытанні», — кажа Сідорскі. Пры гэтым экс-прэм’ер Беларусі мяркуе: «Правільна наш прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч кажа: гэта ўсё наноснае, гэта сыдзе. Галоўнае сёння — выразна рухацца ў абраным кірунку ўласнага развіцця і інтэграцыі».

**Сяргей Гезгала**

### У попа была собака…




У Расіі разгортваецца антытурэцкая кампанія.

# Злоты і рубель

Піша **Сяргей Лябецкі**, Еўрапейская даследніцкая асацыяцыя Oikonomos.

Ці нагадвае беларуская дэнамінацыя 2016 года польскую дэнамінацыю 1995-га?

У чымсьці, безумоўна, нагадвае. Папершае, у абодвух выпадках спроба перайсці да больш «стабільных грошай». У Польшчы гэта спроба была паспяховай. Па-другое, дэнамінацыя і там, і тут у адносінах 10 000:1. Трэцяе падабенства — банкноты для Польшчы ў 1994 і для Беларусі ў 2009 друкаваліся ў Англіі.

На гэтым падабенствы заканчваюцца.

Азначаныя дэнамінацыі праводзяцца ў прынцыпова розных умовах. У Польшчы ў 1994 годзе дэнамінацыя стала адным са складнікаў рынкавых рэформ. Пасля «шокавай тэрапіі» Бальцэровіча пачала будавацца сацыяльная рынкавая гаспадарка. Стабільныя грошы — адзін з яе важных прынцыпаў. Дарэчы, у 1997 годзе была прынята канстытуцыя, у 20 артыкуле якой была запісана: «Сацыяльная рынкавая гаспадарка, якая абапіраецца на свабоду гаспадарчай дзейнасці, прыватную ўласнасць, а таксама на салідарнасць, дыялог і супрацоўніцтва сацыяльных партнёраў, з’яўляецца асновай эканамічнага ладу Польскай Рэспублікі». Менавіта ў гэтым кірунку ішлі паспяховыя рэформы.

Прыватны сектар у Польшчы вырабляў у 1994 годзе ўжо больш за 50% ВУП і ў ім было занята больш за 60% працаўнікоў. Рынкавая ў аснове гаспадарка добра працуе, менавіта калі інфляцыя нізкая (да 3—4 % у год). Ад цэнтральнага банка не патрабуецца звышнамаганняў для гэтага.

Польскія злотыя ўзору 1994 года за 20 гадоў абясцэніліся менш, як беларускі рубель за адзін толькі 2011 год.

У Беларусі эканоміка застаецца паранейшаму пераважна камандная з дамінуючым дзяржаўным сектарам (каля 70%). У такіх умовах дэнамінацыя мае толькі псіхалагічны сэнс, што таксама вельмі важна, але не дастаткова.

**Польскія злотыя ўзору 1994 года за 20 гадоў абясцэніліся менш, як беларускі рубель за адзін толькі 2011 год**

Тут магчымыя два сцэнары развіцця падзей. Першы, найболыш імаверны: інфляцыя істотна не паменшае, і «нулі» зноў будуць нарастаць, а манеты можна будзе здаваць як лом каляровых металаў.

Камандная эканоміка патрабуе крэдытнай эмісіі для пераразмеркавання сродкаў на карысць неэфектыўных, але з пункту гледжання ўлады важных для народнай гаспадаркі прадпрыемстваў.

Другі сцэнар — спроба падавіць інфляцыю рознымі даступнымі сродкамі. Ва ўмовах каманднай эканомікі гэта прывядзе да значнай рэцэсіі, то бок спаду, які і без таго ёсць і будзе працягвацца з-за эканамічных праблем Расіі ў сувязі з падзеннем цаны на нафту.

Акрамя ўмоў, беларуская дэнамінацыя адрозніваецца і ў тэхнічным плане.

У Польшчы на першым этапе, з 1 студзеня 1995 г., уводзіліся толькі новыя манеты і дробныя банкноты 10, 20 і 50 злотых. Буйныя банкноты былі ўведзены толькі ў ліпені 1995 года. Гэта была зроблена, каб непазбежныя памылкі не прыводзілі да значных страт у грамадзян. Такі досвед можна было б выкарыстаць і ў Беларусі, але пакуль што плануецца ўводзіць усе наміналы новых грошай адразу.

Такім чынам, беларуская дэнамінацыя 2016 мае падабенства ў некаторых дэталях да польскай дэнамінацыі 1995 года, але праводзіцца ў прынцыпова іншых умовах адсутнасці рэформаў. Гэта, найбольш імаверна, прывядзе толькі да кароткатэрміновага псіхалагічнага эфекту.

# Хатні робат Jibo прыйдзе ў кожны дом?

Беларускі бізнэсовец Арбузаў інвеставаў у першага ў свеце «сацыяльнага робата».

Віталь Арбузаў інвестуе праз *Fenox Venture Capital* у найноўшыя тэхналогіі ў анлайне і афлайне. Сярод іншага, ён уклаўся ў *Jibo Inc.* — аўтара першага ў свеце «сацыяльнага робата». Як сказана ў паведамленні *FVC*, стратэгічныя інвестыцыі ў *Jibo Inc.* дазволяць пашырыць доступ хатніх гаспадарак да «сацыяльнага робата», а таксама дапамогуць кампаніі нарасціць продажы на ключавых рынках.

Стартап *Jibo Inc.* з'явіўся ў 2012 годзе, у яго рамках ствараецца робат — хатні памочнік *Jibo*. Ён разумее каманды, нагадвае пра падзеі, фатаграфуе, транслюе відэа і гук. Цікава, што на «твары» ў яго адлюстроўваюцца «эмоцыі» і іншая інфармацыя. Платформа пастаянна прырастае новымі сэрвісамі.

Як чакаюць распрацоўшчыкі і інвестары, у масавае карыстанне «сацыяльны робат» будзе запушчаны ў 2016 годзе і стане неад'емнай часткай кожнага дома. Стане такім «універсальным хатнім памочнікам»

ЯМ



# Беларусь стварае ўласныя крылатыя ракеты «Бусел»?

Такую гіпотэзу выказала расійскае выданне «**Бортовой журнал**».

«І беларускія, і ўкраінскія эксперты сыходзяцца ў меркаванні, што РСЗА «Паланэз» — толькі прамежкавая прыступка да стварэння Мінскам уласнага аператыўна-тактычнага ракетнага комплексу, абсталяванага крылатымі ракетамі беларускай вытворчасці (ёсць звесткі, што яны атрымаюць назву «Бусел»).

Сапраўды, абавязковай умовай для гарантаванага знішчэння вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі праціўніка з'яўляецца эфектыўнае пераадоленне сістэмы СПА — тыповая задача для крылатых ракет», — піша выданне.

Магчымасці Беларусі па стварэнні сучасных высокадакладных ракет выклікалі б пэўныя сумненні, асабліва пасля анансавання РСЗА «Паланэз», калі б не некаторыя нюансы.

«Улічваючы залішне цесныя беларуска-ўкраінскія адносіны, перспектывы стварэння беларускай крылатай ракеты «Бусел» становяцца куды больш выразнымі. Бо яшчэ ў пачатку 2012 года ўкраінскай кампаніі «Матор Січ» было прададзена 60% акцый Аршанскага авіярамонтнага завода. Як казалася, адной умовай здзелкі, акрамя ўсяго іншага, была наладка вытворчасці газатурбінных рухавікоў. З улікам сучасных рэалій, відавочна, што ў Оршы рыхтуюцца (ці ўжо гатовыя) наладзіць выпуск ракетных рухавікоў МС-350 або МС-400 для патрэб Беларусі.

Дарэчы, менавіта на базе МС-400 Кітай у 2009 годзе стварыў уласную крылатую ракету CJ-10, вельмі падобную на ўкраінскі аналаг «Каршун». Мабыць, не выпадкова Мінск выбраў Пекін у якасці партнёра па стварэнні сваёй рэактыўнай сістэмы залпавага агню — на гарызонце маячыць уласны ракетны комплекс», — піша аўтар артыкула.

Беларускім абароншчыкам ужо не ўпершыню ўдзельнічаць у праекце па стварэнні АТРК, абсталяванага крылатымі ракетамі. Так, на міжнароднай выставе абароннай прамысловасці IDEAS-2008 Пакістан прадставіў мабільную пускавую ўстаноўку крылатых ракет *Babur* на шасі Мінскага завода колавых цягачоў МЗКЦ-79292. Сама ракета абсталявана ўсё тым жа МС-400.

«Падобна, што стварэнне Мінскам уласнай АТРК, абсталяванай крылатымі ракетамі, толькі справа часу. Іншае пытанне, што прымусіла Беларусь ва ўмовах эканамічных цяжкасцяў фарсіраваць сваю ракетную праграму? Цалкам верагодна, што значная роля ў гэтым пытанні належыць узрастанню напружанасці ў рэгіёне, а таксама нежаданню Масквы паставіць Мінску сучаснае ўзбраенне тыпу ЗРК С-400 або АТРК «Іскандэр», — гаворыцца ў артыкуле.



**1 снежня кіроўцы на мінскай МКАД назіралі перамяшчэнне найноўшай беларускай рэактыўнай сістэмы залпавага агню «Паланэз».**

**Тэндэнцыі**

# Адсяканне залатых рук

Піша **Андрэй Скурко**.



«Мы выйгралі грынкард, рыхтуемся ехаць у Амерыку. Тут я не бачу для сябе перспектыў», — кажа Леанід. Ён родам з-пад Вілейкі, працуе кіроўцам пагрузчыка ў вялікім мінскім дзяржаўным будтрэсце.

У Леаніда залатыя рукі. Ён з пароды «гаспадароў». Яму як нажом па горле безгаспадарчасць і абыякавасць, якая пануе на ягоным прадпрыемстве.

У ЗША ён не прападзе: бос любой будаўнічай фірмы ўхопіцца за яго, пабачыўшы, як віртуозна Лёня кіруе цяжкім пагрузчыкам.

«Я хаджу на курсы польскай мовы. Буду здаваць на «карту паляка» і перабірацца туды», — кажа Аляксандр.

Ён родам з-пад Нясвіжа, а сам гаспадар малой фірмы пад Ракавам, займаецца копкай калодзежаў ды каналізацыі. Яго бізнэс дае працу людзям, робяць хутка і якасна. Але развіцца ў штосьці большае за малую фірму перспектывы няма. У Польшчы Аляксандр не прападзе: мае правы кіроўцы на ўсе катэгорыі, разлічвае сесці на дальнабойную фуру.

Дазнаўся: паехаў у Каліфорнію і сантэхнік, які рабіў у мяне рамонт. Уся іх сям'я пратэстантаў з Ратамкі пад Мінскам — 7 дарослых братоў, унікальная брыгада няп'ючых сантэхнікаў і аддзелачнікаў — ужо ў Штатах. Адзін толькі застаўся тут, які пакуль нежанаты.

Леанід і Аляксандр — не 17-гадовыя. Абодвум за сорак, яны сямейныя, з дзецьмі, сувязямі, усталяваным побытам. Яны не лайдакі, не алкаголікі, не хамы, не халяўшчыкі, якія якраз лёгка пазнаходзілі свае нішы ў сённяшняй калхознай беларускай мадэлі.

Леанід і Аляксандр — гэта соль нашай зямлі. На працы такіх яна стаіць. Гэта яны ствараюць асноўную частку нашага «ВУП». У пачатку ХХ стагоддзя такія вярталіся з Амерыкі ў сваю родную Беларусь. Зарабіўшы цяжкай працай грошы за акіянам, яны разлічвалі «купіць зямлю, прыдбаць свой кут» і быць тут гаспадарамі. Сталін такіх выбіў.

І сёння такім тут ізноў некамфортна. Бесперспектыўнасць іх дастала.

«Дык можна ж зарабляць і тут», — спрабую я пераканаць Леаніда не з'язджаць.

«Можна, калі ўшэрую!» — кажа.

А ён хоча сумленна працаваць, а не так, як прынята ў будтрэстах.

Такі новы трэнд: следам за мазгамі тэхнічных геніяў краіна пазбаўляецца залатых працоўных рук.

А як жа польскія сантэхнікі, літоўскія будаўнікі, што працуюць ад Германіі да Ірландыі, спытае Вадзім Гігін. Працаваць, можа, працуюць, але на святы едуць да сваіх Малгажатаў і Данутаў у Плоцк ці Каўнас. А Леанід з Аляксандрам разлічваюць выязджаць з сем'ямі. Назаўжды.

І хочацца працытаваць сказанае, хоць і з іншай нагоды, адным з герояў Бабеля: «Хазяін, ты б'еш арлоў. З кім ты застанешся? Са смеццем?»

# «Сенатар» Паўлоўскі выйшаў пад хатні арышт

Заснавальнік гродзенскай кампаніі «Біякам», сенатар Андрэй Паўлоўскі, з турмы выйшаў пад хатні арышт. Бізнэсмена ў канцы кастрычніка затрымаў КДБ.

«У ходзе расследавання крымінальнай справы выявіліся новыя акалічнасці, якія дазволілі змяніць яму меру стрымання», — сказаў прэс-сакратар КДБ Дзмітрый Пабяржын.

Па словах крыніцы *Tut.by*, Паўлоўскага выпусцілі, каб ён кіраваў прадпрыемствам, запусціў завод і шукаў грошы для пакрыцця шкоды дзяржаве ў поўным памеры. «Такая форма ўзаемаадносін цяпер агульнапрынятая: заплаціў — выйшаў, не заплаціў — не выйшаў. У каго ёсць уплывовыя заступнікі і досыць свабодных рэсурсаў, надоўга там [СІЗА КДБ] не затрымліваюцца», — мяркуе інфармаваны суразмоўца.

Бізнэсмена абвінавачваюць у нявыплаце падаткаў на 144 млрд рублёў пры пастаўках харчовых дабавак, ветэрынарных прэпаратаў, а таксама матэрыялаў і тэхналагічнага абсталявання для аграпрамысловага комплексу. У КДБ адзначылі, што злачынная схема рэалізоўвалася па ініцыятыве кіраўніцтва групы кампаній «Біякам» з задзейнічаннем шэрагу падкантрольных замежных камерцыйных структур з васьмі краін.

«Пасля прыбыцця прадукцыі ў пункты мытнага афармлення Беларусі прадстаўнікі злачыннай групы ажыццяўлялі замену міжнародных таварасуправаджальных дакументаў на фіктыўныя. Адпраўнікамі замест фірмаў-вытворцаў указваліся падкантрольныя афшорныя кампаніі, а кошт тавару павялічваўся ў тры разы. На ўнутраным рынку названыя тавары прадаваліся прадпрыемствам аграпрамысловага комплексу з мінімальнай гандлёвай надбаўкай, што дазваляла зламыснікам заяўляць пра мінімальныя даходы і тым самым выплачваць сумы падаткаў толькі з нязначнай часткі рэальнага прыбытку. Асноўная яго частка вярталася ў замежнай валюце за мяжу лжэпастаўшчыкам», — патлумачылі ў ведамстве.



# Школьніца выкінулася з акна, бо не перамагла на алімпіядзе?

У студзені ёй споўнілася б 15 гадоў.

— Гэта ваша дзіця выпала з акна? — з такім пытаннем міліцыянты пагрукалі ў дзверы да жыхаркі Магілёва позна вечарам у суботу. Цётка дзяўчынкі кінулася на кухню і ўбачыла расчыненае акно ... Яе пляменніца выскачыла з 9-га паверха.

Зараз следчыя высвятляюць, чаму дзяўчынка скончыла жыццё самагубствам. Паводле інфармацыі «Комсомольской правды», Маша вучылася ў 9-м класе магілёўскай гімназіі на выдатна, расла ў шчаслівай сям'і.

У суботу дзяўчынка выступіла на алімпіядзе, але, даведаўшыся вынікі, знервавалася. Школьніца разлічвала на перамогу, аднак аказалася ўсяго толькі ў сярэдзіне спісу ўдзельнікаў.

Дадому было ехаць позна, а жыве сям'я Машы ў прыгарадзе, і дзяўчынка вырашыла заначаваць у цёткі...

Такія трагедыі не рэдкасць. Яны здараюцца не толькі ў Беларусі, ва ўсіх краінах. На падлеткаў няможна занадта ціснуць. Трэба старацца адчуваць мяжу між патрабавальнасцю і прэсінгам.

Важна, каб падлетак не баяўся распавядаць тату і маме пра свае няўдачы, каб дзіця разумела, што жыццё не сканчаецца на памылцы.

«Бязвыхадных сітуацый не бывае!» — вось што трэба паўтараць падлетку.

**СГ**



## Аўтар Gangnam Style напісаў Daddy

Новая песня з'явілася 30 лістапада на афіцыйным *YouTube*-канале паўднёвакарэйскага спевака *Psy*. *Daddy* («дэдды») паанглійску значыць «тата». За дзень кліп паглядзелі 2,8 млн чалавек.

Першы хіт *Psy — Gangnam Style* — трымае сусветны рэкорд як самае папулярнае відэа ў інтэрнэце. Яго за мінулыя тры гады глядзелі больш за 2,46 млрд разоў.

**Чорны гумар**











А-ля Ікеа: жартаўнікі прыдумалі труны-паліцы.

### Што змянілася на мінскім вакзале?

Створана 16 спецыяльных месцаў для курэння. Курыць на астатняй тэрыторыі забаронена. Гэта робіцца для камфорту грамадзян, якія не паляць.

Дзейнічае сэрвіс-цэнтр павышанай камфортнасці «Клуб СВ». Пасажыр, які купіў білет у вагон СВ, становіцца членам клуба і можа тры гадзіны знаходзіцца ў гэтым vip-клубе бясплатна.

### Дадатковыя цягнікі на Каляды

Беларуская чыгунка назначыць дадатковыя цягнікі ў навагодні перыяд. Дабавіцца больш за 80 цягнікоў — унутры Беларусі, а таксама ў Маскву і Пецярбург.

### 13 снежня чыгунка ўводзіць новы расклад

У новым графіку на Брэст і на Віцебск уводзяцца дадатковыя цягнікі бізнэс-класа, якія едуць без прыпынкаў і з максімальнай хуткасцю. Таксама будуць у графіку і дадатковыя цягнікі эканомкласа.

## Прадпрымальны рыбак... зліў ваду з возера

Валожынскі райвыканкам даў у арэнду аднаму з калгасаў ставок, каб вырошчвалі ў ім рыбу на продаж. Гэты ставок злучаны каналам з іншымі ставамі. Яны аддзеленыя дамбамі, і рыба з аднаго става не трапляе ў другі.

Увечары 4 лістапада рыбак з Валожыншчыны прыйшоў на возера і стаў вудзіць рыбу на спінінг. Справа ішла павольна, і ён вырашыў дзейнічаць па-іншаму.

Адкрыў гаечным ключом шлюз і стаў чакаць, пакуль вада з возера з рыбай, якую вырошчваюць на продаж, перацячэ ў другое возера.

Праз дзве гадзіны ўжо можна было проста хадзіць і збіраць рыбу ў мяхі, што і зрабіў рыбак. Аднак калі ўбачыў фары машыны, што праязджала міма, то вырашыў збегчы. Спачатку схаваўся ў кустах, а потым пабег дамоў.

Як аказалася, гэта была машына міліцыі. Супрацоўнікі якраз ехалі на гэтыя азёры. Ім пазванілі занепакоеныя мясцовыя жыхары, якія заўважылі, што ў адным возеры раптам стала хутка падымацца вада.

Рыбака затрымалі. Яму пагражае да трох гадоў турмы.

20 лістапада справу накіравалі ў суд.

**Настасся Роўда, «Рэгіянальная газета»**

## У Бабруйску 22-гадовы хлопец у слухаўках трапіў пад цягнік

Днём 28 лістапада на пешаходным пераходзе ў Бабруйску пад манеўровы цеплавоз трапіў 22-гадовы хлопец. Малады чалавек атрымаў чэрапна-мазгавую траўму і траўматычную ампутацыю ступні левай нагі.

Цягнік ехаў у бок Жлобіна з хуткасцю 15—20 км/г. Машыніст заўважыў хлопца, пасігналіў і ўжыў экстраннае тармажэнне, але наезду пазбегнуць не ўдалося: малады чалавек ішоў у навушніках і капюшоне.

Аднойчы пацярпелага ўжо штрафавалі за пераход шляхоў у недазволеным месцы.

**Tut.by**

**Кіно**

# Канец смерці

Віктар Франкенштэйн
**Жанр:** фантастыка, драма, жахі
**Рэжысёр:** Пол МакГіган
**У ролях:** Джэймс МакЭвай, Дэніэл Рэдкліф, Джэсіка Браўн-Фіндлі, Бронсан Уэб, Дэніэл Мейс, Робін Пірс.
ЗША, 109 хв.
**Адзнака:** 7

Навуковец-геній Віктар Франкенштэйн стаіць на парозе вялікага адкрыцця: ён знайшоў спосаб ажыўляць мёртвых. Але ці можна ствараць новую істоту? Разам са сваім сябрам і аднадумцам Ігарам Віктар стварае пачвару, і некаторыя людзі гатовыя на ўсё, каб атрымаць армію такіх стварэнняў.

Стужка заснаваная на рамане англійскай пісьменніцы Мэры Шэлі «Франкенштэйн, або Сучасны Праметэй» (напісаны ў 1818), дзе аповед вядзецца ад імя самага навукоўца. Віктар, стварыўшы монстра, хаваецца ад яго па ўсім свеце. Але той паступова ўсведамляе сваю ненатуральную прыроду і вінаваціць ва ўсім стваральніка.

Стужка шатландца Пола МакГігана (серыял «Шэрлак», выходзіць з 2010) прапануе іншы варыянт. Усё дзеянне падаецца з пункту гледжання Ігара, сябра і памочніка Віктара. Глядач адчуе каштоўнасць дружбы, значэнне страты, сутнасць здрады. Але не праз споведзь пачвары, створанай Віктарам Франкенштэйнам, а праз ўзаемаадносіны галоўных герояў.

Фільм сабраў сапраўдных зорак брытанскага кіно. Галоўныя ролі дасталіся шатландцу Джэймсу МакЭваю («Людзі Х: Дні мінулай будучыні», 2014) і англічаніну Дэніэлу Рэдкліфу, які пасля эпапеі пра Гары Потэра (2001—2011) спрабуе заявіць пра сябе ў іншых амплуа.

Ролю каханай Ігара выканала брытанка Джэсіка Браўн-Фіндлі (серыял «Абацтва Даўнтан», выходзіць з 2010).

Цікава, што выканаўцаў галоўных роляў насамрэч звязвае сталае сяброўства. Дэніэл Рэдкліф убачыў Джэймса МакЭвая ў спектаклі «Макбет». Акцёры сустрэліся за кулісамі і адразу ж пасябравалі. Паміж імі адчуваецца хімія, якую яны з лёгкасцю змаглі перанесці на экран.




«Чаму фільм можа навучыць дзяцей? Не абыходзьцеся з людзьмі дрэнна — вось асноўны ўрок. Шануйце сяброўства. У цэнтры фільма ёсць цікавы канфлікт, у які могуць уцягнуцца і дзеці. Але хутчэй за ўсё, я б проста выпуціў вочы і ўскрыкнуў: «Які круты монстр!» — пасмяяліся акцёры.

Стужка будзе цікавая ўсім аматарам фантастыкі і ўласна першакрыніцы Мэры Шэлі. Мае ўзроставы рэйтынг 13+.

**Настасся Уласава**




**Халтура**

У Баранавічах прадаецца значок з гербам горада, дзе ў двух словах — дзве памылкі. Пад гербам горада напісана «Баровічі», а на гербе замест «Баранавічы» значыцца «Бароновічы».

### «Белавія» з 1 па 15 снежня па 15 кірунках знізіць цэны на 30%

У прыватнасці, размова ідзе аб рэйсах у/з Амстэрдама, Берліна, Франкфурта, Мілана, Прагі, Рыма, Сочы і іншых гарадоў. Цана білета па акцыі складзе 199 еўра. Перыяд падарожжа па акцыйных білетах — з 11 студзеня па 31 сакавіка 2016 года.

## «Трэба нізка пакланіцца назіральніцы Наталлі Гарачцы»

Трэба ўсім беларусам нізка пакланіцца назіральніцы Наталлі Гарачцы, якая не ўстала пры з'яўленні Лукашэнкі на ўчастку для галасавання. Гледзячы на яе твар, я бачу рэальны вобраз чалавека, які патрэбны нашай краіне, для яе кіравання. На твары Наталлі Гарачкі — адбітак не толькі самапавагі, але і адбітак болю за Беларусь, за бесперспектыўнасць, у якую яе завялі першыя асобы. Гэты ваш здымак ёсць зрэзам нашага грамадства сёння.

**З павагай, настаўнік Мікола, Віцебск**

## Сучасныя гарлахвацкія

Прачытаў у друку матэрыял аб злоўжываннях у Інстытуце эксперыментальнай ветэрынарыі (так, ёсць і такі!) і дзіву даўся: вось гэта маштаб, вось дзе размах крадзяжу, які часта бывае толькі на расійскіх прасторах.

Напалоханы эпідэміяй свіной чумы, урад выдзеліў вышэйназванай установе больш за 2 млрд рублёў. У выніку атрымаўся пшык, а дырэктар хіба пашыбуе са сваякамі на нары. Будуць паламаныя чалавечыя лёсы, будзе канфіскавана маёмасць.

Вось аб чым падумалася: няўжо ніхто з высокіх навуковых чыноўнікаў не пацікавіўся, як расходуюцца бюджэтныя грошы? Вакцыны патрэбнай не вынайшлі, будынак не адрамантавалі.

Ды ўвогуле, ці можна такую вакцыну зрабіць і ўжыць да мільёнаў свіней, калі яны жывуць усяго да года. У свеце хіба такіх вакцын няма. Мы помнім, як у Англіі спальвалі нядаўна тысячы кароў. Вельмі складаная задача, а падышлі да яе цапу-лапу, па-бальшавіцку: давай вынік — і ўсё тут.

І выйшаў такі «свінтус грандыёзус» — вялікі скандал у вучоным свеце. Імя дырэктара ў газетах не называлі, але, мусіць, гучыць яно «Гарлахвацкі».

**Аляксей Буцько, Гродна**

## «І я тады вырашыў, што заўсёды буду размаўляць на беларускай мове»

Піша **Алег Карбалевіч**



У дзяцінстве я думаў, што ў гарадах жывуць адны маскалі.

Я нарадзіўся і вырас у вёсцы, дзе хадзіў у вясковую, беларускамоўную, школу. І, натуральна, размаўляў на беларускай мове, як і ўсе вяскоўцы.

І мяне вельмі здзівіла, калі я першы раз трапіў у горад, што ўсе гараджане размаўляюць па-руску.

Я запытаўся ў мамы: а чаму гэта ў горадзе людзі размаўляюць не па-нашаму?

Яна мне адказала (не вельмі развіваючы гэтую тэму), што ў беларускіх гарадах жыве многа рускіх людзей, якія пераехалі сюды пасля вайны, бо шмат беларусаў загінула ў вайну і гарады апусцелі. І яны (рускія) уплываюць на мясцовае насельніцтва.

Паняцце «русіфікацыя» тады было крамольным і мне невядомым.

Вось жа, падумаў я, прыехалі на нашу зямлю, наводзяць свае парадкі.

Крыху пазней, ужо ў старэйшых класах, паехаўшы неяк горад, я выпадкова сустрэў там сваіх школьных дзяўчат-сябровак, таксама з вёскі.

На маё здзіўленне, яны, размаўляючы дома і ў школе па-беларуску, выехаўшы ў горад, адразу перайшлі на «гарадскую», то бок на рускую, мову.

Гэта мяне балюча ўразіла, што нехта саромеецца і цураецца роднай мовы.

І я тады вырашыў, што заўсёды буду размаўляць на беларускай мове і не саромецца, што я «дзеравенец».

Гэта быў мой асабісты выклік палітыцы русіфікацыі.

Вось такі быў мой унутраны пратэст супраць зняважі роднай мовы.

Цяпер мне 52 гады, і я стрымаў свой зарок.

*Рэчыца*

### Прыватныя абвесткі

**Віншуем Марыю Мартысевіч і Паўла Касцюкевіча** з нараджэннем сына Сымона. Гадуйцеся ў шчасці! Сябры

**Прыму ў падарунак ці набуду «Нашу Ніву»** №24, 2015. Дапамажыце, калі ласка. Эл. пошта: biazmikaleh@gmail.com

### Віншаванні

Віншуем Мікалая Коласа і Марыю Касьян з узяццем шлюбу. Сябры





## На магіле Каруся Каганца — ламачча

«У нядзелю наведалі магілу Каруся Каганца, які пахаваны ў вёсцы Вялікія Навасёлкі Дзяржынскага раёна, — піша ў рэдакцыю «НН» чытач Аляксей Казлюк. — Паехалі вельмі засмучаныя. Могілкі занядбаныя: раскіданыя ляжаць пахавальныя помнікі, а на магілу пісьменніка і грамадскага дзеяча павалілася дрэва, якое таксама паламала агароджу вакол помніка. Спадзяемся, мясцовыя ўлады ці неабыякавыя грамадзяне выправяць гэткі сорам».

**Ад рэдактара.** Добра, што звяртаецеся на такое ўвагу. Але ў такіх сітуацыях трэба не ў газеты пісаць, а ўзяць і адразу на месцы прыбраць і расчысціць. А ўжо тады пазваніць у сельсавет і школу мясцовыя, каб паправілі і абгародку.



### Водгукі

**«Як прапіць хату і краіну» (№44)**

Дзякуй, спадар Андрэй Горват, за праўдзівы артыкул, а «НН» дзякуй за тое, што гэту праўду паставілі, што вельмі рэдка зараз у СМІ!

**Віктар Малочка, Салігорск**

Пане Андрэй, вялікі дзякуй за допіс. Папярэдні пра выбары быў моцны, і гэты. Чамусьці становішча рэчаў вядомае, але пра гэта маўчаць. З маіх знаёмых, адзін хлопец-філолаг: школа — медаль, універсітэт Скарыны — чырвоны дыплом, і — алкаш. Другі: школа, медаль, універсітэт, ведае дзве мовы — алкаш. Трэці: універсітэт, гісторык, і — алкаш. Дзяўчына: у школе медаль, недаступная прыгажуня ў юнацтве — алкагалічка. Узрост — 30—40 гадоў.

**N, Рагачоў**

На жаль, у кожнай беларускай сям'і цяпер ёсць хворы на рак і алкагалізм.

**Таццяна, Мінск**

У маёй маці на лецішчы таксама ёсць раб. Адзін на вуліцы мужык пяцідзесяці гадоў застаўся. Астатнія ўжо «лыжы адкінулі». Брук кладзе, лазню робіць, іншыя хаты для маці на дровы разбірае. А яна яго за гэта поіць. Яшчэ і корміць нармальна, то бок прапануе паесці, а ён не хоча — адразу ў краму па «чарла». Бо рукі трасуцца без бухла!

**ЮКа**

Горкая праўда, але гэткая з'ява маецца не толькі ў вёсках, але і ў гарадах.

Ведаю 40-гадовых гараджан, якія не бачылі працоўнай кніжкі ў вочы і іх утрымліваюць бацькі.

**Якуб**

Немцы зніштажалі беларусаў цэлымі вёскамі... Між тым праедзьце вёскамі, гляньце — немцы адпачываюць! Пустыя вёскі, нават у цэнтрах сельсаветаў у школках яшчэ і дзіцячы сад, абы настаўнікаў не звальняць з працы за непатрэбаю, і ўсё змяншаецца на першым паверсе. За дваццаць гадоў зніклі тысячы вёсак, беларусаў стала на мільён менш, яшчэ столькі сама ездзіць на працу за мяжу, бо ў нашых гарадах яе няма, яшчэ столькі сама сточваюць канцы з канцамі за дзве трацїны тарыфу.

Так што драбнавата піша аўтар, пра алкаголікаў і бацьказабойцаў. Карціна больш алеем, чым гэтай вясковай гразёю.

**Яўген**

Сумна ўсё гэта. Адны п'юць ад жыру, другія ад безвыходнасці, а вынік адзіны.... Вядома ж, алкагалізм і наркаманія — сацыяльныя хваробы. Як выхавалі чалавека,так ён сябе і паводзіць. А папусціцца лёгка, вельмі лёгка. Тым больш што дзеля гэтага ёсць ўсе абставіны. А заставацца годным чалавекам цяжка, гэта ж працаваць трэба хуч над сабой, як бы гэта высакамоўна не гучала.

**Ягор**

Днямі ў вёсцы памерла ад раку маладая жанчына, якую біў п'яны муж. Цяпер з ім будзе жыць толькі 12-гадовы сын.

**Дзмітры, Налібакі, Стаўбцоўскі раён**

Але людзі п'юць не проста таму,што дзяржава дазваляе. П'юць ад жыцця беспрасветнага. Вёскі цэлыя знікаюць, сэнс згубіўся,бо людзі на сваёй зямлі не гаспадары, не могуць ні бізнэсам заняцца дробным, ні як інш памяняць сваё жыццё.

**Halina**

Алкагалізм замяшчае рэлігію. Непазбежнасць смерці і ўласная марвальная недасканаласць патрабуюць кампенсацыі.

Кожны чацвёрты аграрны і кожны пяты прамысловы рабочы — алкаголікі. З гэтага моманту алкагалізм — частка культуры і рэпрадукуецца ў яе межах.

**Міхал Залескі, Мінск**

На захадзе Беларусі таксама п'юць, але іх там меншасць. Збольшага гэта адсяленцы з горада.

**Бос**

Забарона прадаваць у начны час ці распіваць на вуліцы сэнс мае. А вось усялякія «дні цвярозасці» — гэта чыстая прафанацыя. Мае сэнс усё, што планамерна і паслядоўна. А нешта разавае — імітацыя дзейнасці дзеля прыгожай справаздачы.

Гэтыя забароны і абмежаванні дзейнічаюць, праўда, не ў выпадку кончаных алкашоў, а толькі ў дачыненні да тых, хто яшчэ на шляху да гэтага. Але і гэта добра.

**Алесь Пашкевіч, Мінск**

**«Усевалад Сцебурака: Чакаем Алеся Юркойця» (№42)**

Усеваладзе, ты адкрыў для мяне асобу. Дзякуй!

**Анатоль Сідарэвіч**

**«Дзве праваслаўныя царквы, а такі кантраст» (№43)**

Сабор Святых апосталаў Пятра і Паўла, Мінск. Маскоўскі патрыярхат. Заўсёды задаюць пытанне: «Колькі ахвяруеце»? Аніякай таксы за ўспамін душы тут няма. Шмат залежыць ад епархіі і настаяцеля.

**Чытач**

Я каталічка і не хачу разважаць пра РПЦ, абы яны да касцёла са сваімі навучаннямі і абгаворамі не лезлі, так надакучылі. Я аб іншым. Людзі мілыя, калі пра любую рэлігію наогул гаварыць, святарам таксама трэба неяк жыць і не павінны яны хлеб з вадою есці і на роварах ездзіць. І царкоўных розных затрат шмат, і сем'і ў папоў ёсць. Што апетыты розныя — гэта факт. Ахвяра на храм ці за любую касцельную паслугу для мяне — святое. Ніхто ў нас не вымагае. Гэта ўсе для Бога, а далей не мая справа.

**Ганна з-пад Вільні**

### Жарт



# Як вярбуюць у наркакур’еры праз інтэрнэт

Распаўсюднікі спайсаў адкрыта шукаюць сабе «ногі».

Апошнім часам у суполках па пошуку працы ў сацсетках нярэдка можна сустрэць аб’явы аб пошуку кур’ераў. Часцей за ўсё патэнцыйнаму кандыдату абяцаюць высокую аплату, але пра характар працы фактычна нічога не расказваюць. «Наша Ніва» вырашыла больш уважліва пацікавіцца адной з такіх прапаноў.

### «Работа для ўсіх!»

Аб’ява знайшлася на адным з рэгіянальных паблікаў, прысвечаных пошуку працы.

«Праца для ўсіх! НЕ ІНТЭРНЭТ. Высокая аплата: ад 300$ за тыдзень! Выплаты па факце здачы акта работ. Пажаданні да кандыдатаў:

— да 25 гадоў,

— вы павінны быць фізічна развіты,

— наяўнасць рабочых спецыяльнасцяў вітаецца!

— 16+,

— праца цяжкая, але штодня і добра аплачваецца».

Напісана яна была з відавочна фэйкавага акаўнта — на старонцы толькі адзін фотаздымак, у сябрах — два чалавекі. Затое акаўнт падпісаны на цэлы шэраг паблікаў па пошуку працы.

Пішу, што хацелася б падрабязней даведацца аб вакансіі. Неўзабаве прыходзіць адказ — абяцаюць сапраўдныя залатыя горы.

Але падрабязней суразмоўца размаўляць не хоча — для далейшых адносін прапануе спампаваць месенджар *Telegram*, які лічыцца адным з самых бяспечных у свеце. Затым просіць паведаміць яму нумар тэлефона, да якога прывязаны акаўнт у месенджары. Усе пытанні суразмоўца ігнаруе — проста дублюе сваё ж паведамленне пра *Telegram*.

### «Робіш клады — атрымліваеш грошы»

Ну што ж, сказана — зроблена. Адпраўляем «працадаўцу» нумар. У адказ ён дасылае нік «куратара па Мінску», да якога трэба звярнуцца, калі цікавіць праца.

Звяртаемся. Адказваюць хутка. Суразмоўца задае пару пытанняў, пра ўзрост, пра тое, з кім жыву. Затым нечакана пытаецца, ці ўжываю наркотыкі. Стараюся ўхіліцца ад прамога адказу.

Але ж увогуле складваецца ўражанне, што канкрэтныя звесткі не надта цікавяць «працадаўцу» — галоўная задача ацаніць, што за чалавек перапісваецца з ім. Ён ніводнага разу не пытаецца пра імя, прозвішча ці хаця б раён пражывання. Пасля чарговага пытання ён выкатвае вялізны допіс, у якім больш-менш падрабязна распісвае аплату працы. Упэўнівае: «Калі рабіць усё правільна, можна ні пра што не перажываць».




Скрыншот паведамлення аб месцазнаходжанні закладкі




На пытанне, што ў пакетах, якія трэба раскладаць, адказвае так: «Цукеркі. Пры падобным аб’ёме працы сумы ў 3000—5000$ у месяц сумленным шляхам не зарабляюцца». Сцвярджае, што і сам два гады працаваў кур’ерам і «ніхто нічога не бачыў, ніхто нічога не ведае».

Пытаюся пра праблемы з міліцыяй. «Працадаўца» супакойвае: маўляў, у крайнім выпадку заўсёды можна адкупіцца. (Насамрэч адкупіцца немагчыма.)

Затым скідвае мне «метадычку» — вялікі допіс, у якім падрабязна распісана, як рабіць закладкі, як потым дасылаць фоткі і пазначаць на іх месца, дзе схаваны пакет, як і куды тыя фоткі потым запампоўваць. Да допісу прымацаваны нават скрыншоты з пазнакамі.




**Перапіска Укантакце. Патэнцыйнага кур’ера заваблівають вялікімі грашыма.**

«І памятай, удача тут ні пры чым. Калі ўсё рабіць роўна, то працоўныя будні будуць праходзіць бяспечна», — піша суразмоўца.

Пачаць працу мне прапанавалі адразу ж увечары. Але ўсё ж вырашылі дамовіцца на наступны дзень.

### Міліцыя: «Трэба як у Кітаі!»

Назаўтра ў *Telegram* прыходзіць паведамленне. Закладка была схавана на самым ускрайку горада, пад каменем ля цеплатрасы. Да паведамлення прыкладзена фотка, каб не памыліцца.

Забіраць пакет пайшлі з міліцыяй. Але ў пазначаным месцы нічога не было. Гэта не дзіўна: адразу рызыкаваць таварам і грашыма ніхто не будзе, звычайна ў першы раз «працадаўцы» назіраюць, як іх кур’ер будзе сябе паводзіць. Ці могуць пакласці пакет, але ў ім будзе звычайнае бяспечнае рэчыва, напрыклад цукар.

Тым часам міліцыянты распавялі свой асабісты пункт гледжання на праблему.

«Цяпер вельмі востра стаіць праблема наркотыкаў, вельмі. Шчыра скажу, калі 17 гадоў таму я толькі пачынаў працу ў міліцыі, такога, як цяпер, не было. І вырашаць гэтае пытанне павінны на дзяржаўным узроўні. У драконаўскіх мерах няма нічога страшнага, наадварот, яны павінны быць. Чалавек павінен ведаць, на што ён ідзе, калі вырашае паспрабаваць. Хай ведае, што можа атрымаць пяць гадоў, і хай атрымае тэрмін, калі яго затрымаюць. Інакш наркотыкі не перамагчы, — выказаўся адзін з супрацоўнікаў. — Трэба як у Кітаі: паставілі да сценкі і паказалі гэта па цэнтральным тэлебачанні. Каб ты яшчэ з пачатковай школы ведаў, да чаго прывядуць наркотыкі».

### «Наркошы ходзяць у вялікія крамы як на работу»

Гэты пункт гледжання падтрымаў і яго напарнік. І дадаў:

«Адмянілі крымінальны артыкул за паўторны дробны крадзеж, і дарма адмянілі. Бо раней скраў ты дробязь другі раз — сеў. А сёння за гэта ці то штраф, ці то, калі грошай на штраф няма, некалькі сутак. І ўсё. І наркошы ходзяць у вялікія крамы як на работу — яны ведаюць, колькі ўзяць, каб гэта кваліфікавалі менавіта як дробны крадзеж. Спачатку праходзяцца па краме, глядзяць, што ўзяць. Потым пераапранаюцца ці мяняюцца курткамі — і ідуць красці. Бо не баяцца. Мы аднаго затрымалі, дык ён увогуле крычаў: «Я Робін Гуд! Я ў багатых краду!»

Нагадаем, што праблема ўжывання спайсаў стаіць у Беларусі вельмі востра. Нярэдка выпадкі ўжывання скончаліся трагічна — спажыўцы, як правіла падлеткі, памiралі адразу ці наносілі адзін аднаму цяжкія пашкоджанні. Адна з найбольш рэзанансных гісторый адбылася ў Гомелі, калі сябры пакаштавалі «курыльную сумесь», пасля чаго двое з іх выразалі трэціму вочы.

Увагу на праблему звярнуў і Аляксандр Лукашэнка. Ён заявіў, што для злачынцаў у наркасферы неабходна стварыць максімальна жорсткія ўмовы ў месцах адбыцця тэрмінаў: «Для іх трэба стварыць невыносныя ўмовы. Калі ў нас іх вельмі шмат, я не думаю, што іх у нас вельмі шмат, каб ствараць ім асобную калонію, але калі шмат, давайце адну з калоній аддадзім для гэтага... Каб яны, седзячы ў гэтай калоніі, проста скажу, смерці прасілі. Тое самае і для распаўсюджвальнікаў».

Лукашэнка падпісаў антынаркатычны дэкрэт, які ўступіў у сілу 1 студзеня гэтага года. Былі павялічаны тэрміны за распаўсюд рэчываў і выраб (напрыклад, раней за вытворчасць наркотыкаў давалі 8 гадоў, цяпер — 20), зніжаны ўзрост адказнасці з 16 да 14 гадоў.

P.S. Па рэкамендацыі супрацоўнікаў МУС, далейшая перапіска з «працадаўцам» была спыненая.

Улад Швядовіч

# Шукаюць ахвяр гвалтаўніка

Беларускія праваахоўнікі працягваюць пошукі ахвяр 44-гадовага расіяніна, які дзвацаць гадоў гвалтаваў жанчын у розных краінах. Цяпер ён знаходзіцца ў СІЗА.

Даказана 26 выпадкаў нападу на жанчын у Мінскай і Брэсцкай абласцях. Двойчы падазраваны згвалціў дзяўчат у Ленінградскай вобласці Расіі. 15 гадоў таму яго асудзілі за аналагічныя злачынства ў Польшчы.

У ГУУС Мінска паведамляюць, што гвалтаўнік пасля злачынстваў прапаноўваў сваім ахвярам сустракацца і нават завесці дзіця.

Вядома, што да 2000 года ён працаваў кіроўцам грамадскага транспарту ў Мінску. Асаблівая прыкмета падазраванага — зуб з металу жоўтага колеру ў верхняй сківіцы. Усіх, хто ведае штонебудзь аб злачынствах мужчыны, праваахоўнікі просяць паведаміць у міліцыю.



УШ

## Сцісла

### Рэўнасць пенсіянеркі

59-гадовая жыхарка Бялыніцкага раёна падпаліла хату, у якой быў яе сужыцель з палюбоўніцай. Абое загінулі. Жанчыну затрымалі, ёй пагражае да 25 гадоў.

### Страсці ў Івацэвічах

Ахоўнік бара ў Івацэвічах пасля сваркі задушыў сужыцельку-бармэнку, пасля чаго прабіў сабе грудзі нажом і падпаліў кватэру, у якой застаўся. Але супрацоўнікі МНС загасілі пажар і выратавалі жыццё мужчыны. Ён знаходзіцца ў рэанімацыі пад канвойным наглядам, распачалі крымінальную справу.

### Выдаюць сябе за газавікоў

У Баранавічах учыненыя тры крадзяжы грошай у пенсіянераў пад выглядам праверкі газавага абсталявання. Вядзецца пошук злачынцы. Паводле слоў пацярпелых, гэта жанчына маленькага росту, сярэдняга целаскладу, на выгляд 30—35 гадоў.

### Сустрэліся

У Гомелі п’яны кіроўца збіў п’янага пешахода. Апошні атрымаў траўмы галавы і ўдар груднoй клеткі і быў шпіталізаваны ў нейрахірургічнае аддзяленне абласной бальніцы. Кіроўца затрыманы.

### Смерць у Паставах

У Паставах легкавая машына вылецела ў кювет і перакулілася. Кіроўца, 59-гадовы мужчына, загінуў.

### Пацягнула на экзотыку

Медработніца з Веткаўскага раёна аддала 7000 даляраў махлярам. Жанчына заўважыла ў сеціве аб’яву аб продажы экзатычных папугаяў жако з Камеруна і аплаціла «дастаўку» і «афармленне дакументаў».

УШ

# Ішоў каля дома, упалі лісты металапрофілю

Месяц у бальніцы ў Баранавічах ляжыць небарака, на якога ўпала 18 лістоў цяжкай бляхі — так званага «металапрофілю».

Здарылася тое 14 кастрычніка каля дома №20 на вуліцы Леніна ў Баранавічах.

Аляксандр Паўль навек застанецца інвалідам. Нягледзячы на ўсе намаганні дактароў, пасля многіх аперацый, хірургі ў Брэсце ў выніку ампутавалі яму нагу. І гэта яшчэ не ўсё: цяжкія траўмы галавы, шматлікія пераломы хрыбетніка, рэбраў, рукі.

Прадстаўнікі будаўнічай арганізацыі, якія ажыццяўляюць рамонт даху дома №20, па віне якіх метал і паляцеў на зямлю, «перадалі толькі пяць мільёнаў рублёў, і ўсё, — распавяла баранавіцкай газеце «Інтэкс-прэс» жонка Аляксандра Людміла. — Дзякуй хуткай, што своечасова прыбыла на месца, дактарам, якія цэлай брыгадай некалькі гадзін «збіралі» мужа па частках, дзякуй калегам Сашы па працы, суседзям, усім, хто праяўляе спагаду і дапамагае».

Аляксандр Паўль робіць у рамонтна-будаўнічым цэху Баранавіцкага вытворчага бāваўнянага аб'яднання. Той дзень ён быў выхадны. Купіў у краме «Цвік» будаўнічую сумесь, пагрузіў яе на вазок і накіраваўся на вакзал, адкуль збіраўся ехаць на дачу. І раптам на Аляксандра паляцелі лісты металапрофілю.

«Я не павінен быў выжыць з такімі траўмамі, — кажа чалавек. — Яшчэ шчасце, што аператыўна спрацавалі дактары».

Па словах Людмілы, пасля здарэння ля дома №20 паставілі і дашок, і агароджу.

«Колькі мы перажылі за гэтыя паўтара месяца, колькі нацярпеліся, — прызнаецца жанчына. — А якія лекі я куплю, калі ў мяне заробак два мільёны за месяц? Муж раней па вахце ездзіў, у Якуціі працаваў».

Як распавёў следчы міжраённага следчага камітэта Дзмітрый Лішко, па гэтым здарэнні праводзіцца праверка. Каментар у дырэктара будаўнічай арганізацыі пакуль атрымаць не ўдалося, бо ён «знаходзіцца ў адпачынку».

УШ


Дом, каля якога здарылася бяда.

Юры Піваварчык




## Былы старшыня Іўеўскага райвыканкама сядзе на 5 гадоў

У судзе Лідскага раёна завяршыўся працэс над Міхаілам Ваўчэцкім, экс-старшынёй Іўеўскага райвыканкама. Яго асудзілі да 6 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Але ж чыноўнік трапіў пад амністыю, таму адседзіць толькі 5 гадоў.

Зямлю Ваўчэцкага, як і два недабуды на ёй, канфіскуюць у даход дзяржавы.

Крымінальную справу на чыноўніка завялі летась. Як даказала следства, пару гадоў Міхаіл Ваўчэцкі даваў незаконныя ўказанні кіраўнікам розных прадпрыемстваў і арганізацый Іўя. Пры гэтым ён бязвыплатна атрымліваў будматэрыялы. Вазіў яму іх транспарт таксама задарма. Сума незаконнай выгады перавысіла 125 мільёнаў рублёў.

Ён таксама даваў указанні аб выдзяленні зямельных участкаў ва ўласнасць сваім знаёмым, аб адчужэнні на іх карысць сельскагаспадарчай тэхнікі прадпрыемстваў раёна па заніжанай цане. Гэтую тэхніку ён пасля выкарыстоўваў на будаўніцтве ўласнага дома. Нават сажалку ў яго выкапалі незаконна, даказала следства.

УШ

## Мінскі кухар абрабаваў саўну пасля праведзенай там ночы з дзвюма дзяўчынамі

24-гадовы малады чалавек вечарам пазнаёміўся на вуліцы з дзвюма прывабнымі дзяўчынамі. У выніку яны вырашылі працягнуць знаёмства ў саўне. Каля сямі гадзін раніцы кампанія сабралася сыходзіць, і дзяўчаты падышлі да адміністратара, каб разлічыцца.

Хлопец ужо накіроўваўся да выхаду, аднак нечакана вярнуўся, схапіў пачак грошай, які супрацоўніца саўны дастала з касы для разліку з кліентамі, і ўцёк.

Адміністратар і адна з дзяўчын паспрабавалі дагнаць маладога чалавека, але гэта ім не ўдалося. Выклікалі міліцыю, і неўзабаве хлопца затрымалі ў адным з двароў на Нямізе. Цяпер яму пагражае да 4 гадоў пазбаўлення волі.

УШ

# Экстазі ў трусах

У адным са сталічных **начных клубаў** затрымалі 21-гадовага расіяніна.

Яго падазраюць у незаконным абароце псіхатропных рэчываў.

Як паведамляе ГУУС, затрыманага абшукалі і ў кішэні штаноў знайшлі папяровы скрутак, у якім знаходзіўся амфетамін. А ў трусах былі схаваныя загорнутыя ў сурвэтку дзве таблеткі экстазі. Па месцы яго жыхарства знайшлі яшчэ 7,5 грама амфетаміну.

Экстазі і амфетамін — моцныя наркотыкі.

Малады чалавек — ураджэнец Мінска, раней не судзімы, жыве ў Маскве, працуе ў адной з маскоўскіх кампаній па рамонце камп'ютарнай тэхнікі, часам прыязджае ў Мінск да бацькоў. Сам ён расказаў, што экстазі і амфетамін купляў у Маскве, частку ўжываў там, а частку прывозіў у Мінск, каб частаваць знаёмых, якія адпачываюць у начных клубах.

Цяпер шчодраму аматару клубнага жыцця пагражае да 8 гадоў.

УШ

# Упаляваў свайго сябра

Бяда адбылася 19 ліпеня каля дзесяці гадзін вечара ў паляўнічых угоддзях каля вёскі Падклённе. Егеры Быхаўскага лясгаса пачулі стрэлы і з дапамогай цеплавізара заўважылі чалавека. Каб затрымаць яго, паклікалі дапамогу з Быхаўскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

Ужо ў дарозе інспектары даведаліся, што падчас палявання адбыўся трагічны выпадак: 37-гадовы жыхар Быхава смяротна параніў свайго таварыша — 57-гадовага магілёўца, з якім яны разам палявалі на лася. У цемры быхаўчанін стрэліў на шоргат, які прагучаў у зарасніках. Мужчыну затрымалі, калі ён ішоў па дарозе ў кірунку вёскі з мэтай здацца праваахоўным органам.

Абодва браканьеры палявалі з незарэгістраванымі стрэльбамі. Больш за тое, 37-гадовы мужчына год таму ўжо прыцягваўся да адказнасці за парушэнне правілаў палявання, тады ў яго таксама канфіскавалі незарэгістраваную стрэльбу.

У момант затрымання мужчына быў п'яны. Пацярпелы атрымаў скрознае агнястрэльнае шротавае раненне шыі і памёр на месцы.

У выніку жыхара Быхава асудзілі на паўтара года пазбаўлення волі. Вінаваты ў прычыненні смерці па неасцярожнасці, а таксама ў незаконных набыцці, захоўванні, перавозцы, нашэнні паляўнічай агнястрэльнай гладкаствольнай зброі і боепрыпасаў да яе.

Прысуд яшчэ не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны і апратэставаны.

УШ

# У Расіі хочуць забараніць публікацыю інфармацыі пра «зачэпераў»

Зачэперы — папулярная ў Расіі субкультура. Гэта скончаецца дзясяткамі страшных смерцяў.

Маскоўская міжрэгіянальная транспартная пракуратура падала пазоў у суд да сацыяльнай сеткі «Укантакце» аб прызнанні інфармацыі пра зачэпераў («зацеперы») забароненай на тэрыторыі Расіі, паведамляюць расійскія СМІ. Зачэперы — гэта аматары катацца, чапляючыся за вагоны.

Пазоўнік адзначае, што распаўсюд такой інфармацыі падвяргае небяспецы жыццё і здароўе грамадзян, у тым ліку непаўналетніх.

Судовае пасяджэнне прызначанае на 1 снежня 2015 года.

Раней суды абавязалі «Укантакце» блакаваць суполкі зачэпераў.

Зачэперы гінуць на вагонах і на рэйках. Расійскія інтэрнэт поўніцца страшнымі здымкамі целаў, абвугленых ад дакранання да кантактных правадоў або разрэзаных у выніку падзення на рэйкі.

СГ

# Эльдар Разанаў: сумленны да канца

Аўтар любімых кінакамедый адышоў 30 лістапада ў Маскве.

Разанава паклалі ў бальніцу 21 лістапада. 88-гадовы рэжысёр стаў задыхацца, а падчас абследавання медыкі выявілі вадкасць у лёгкім. Прычынай смерці называецца сардэчная недастатковасць.

Разанаў быў геніяльным рэжысёрам, з тонкім гумарам і ўменнем «ствараць» акцёраў.

У 1956 годзе ён зняў «Карнавальную ноч», якая прынесла яму вядомасць. Пасля былі «Гусарская балада», якая ледзьве прарвалася праз суслаўскую цэнзуру, «Беражыся аўтамабіля», «Жорсткі раманс», «Службовы раман», «Гараж», «Іронія лёсу, або Лёгкі дух», «Вакзал для дваіх».



Разанаў меў усходняе імя — Эльдар. У перакладзе з фарсі — «той, хто валодае светам».

Ён нарадзіўся 18 лістапада 1927 у Самары, а ранняе дзяцінства правёў у Тэгеране, дзе ў «торгпрадстве», гандлёвым прадстаўніцтве, працавалі яго бацькі. Пазней бацьку перавялі ў Маскву, дзе ён стаў начальнікам віннага главка. І прыахвоціўся да выпіўкі на такой пасадзе. Не вытрымаўшы п'яных скандалаў, маці ўзяла малога Эльдара і сышла жыць да сяброўкі. Пазней яна выйшла замуж за інжынера, удаўца з дзіцём. Да пасынка той ставіўся як да роднага сына. Бацька Разанава таксама ў другі раз ажаніўся, але ў 1938-м яго арыштавалі і далі пяць гадоў. А пасля ўцёкаў з лагера — дадалі яшчэ дзесяць.

У пачатку 1960-х бацька знайшоў сына па яго фільмах. «Прыйшоў зусім чужы, зламаны жыццём чалавек, — успамінаў рэжысёр. — ...Я даў яму ўсе грошы, якія меў пры сабе, і ён знік на чатыры гады, не маючы права жыць у Маскве».

Як многія з яго пакалення, у юнацтве Разанаў марыў стаць мараком. У 1944-м, скончыўшы экстэрнам 10-ы клас, ён паслаў запыт у Адэскую мараходку, але адказу не атрымаў. Каб не губляць год, разам з прыяцелем з цікаўнасці паехаў паступаць у ВГІК, хоць кіно не вельмі і любіў. Падчас падачы дакументаў прыйшлося пахваляцца: бацька — рускі, але вораг народа, а маці і айчым — габрэі. На шчасце, у вайну анкет так пільна не чыталі, і пасля ўступных экзаменаў юнак быў умоўна залічаны на рэжысёрскі факультэт у майстэрню знакамітага кінарэжысёра і сцэнарыста Рыгора Козінцава.

Разанаў-рэжысёр напоўніцу зведаў, што такое савецкая цэнзура. Яго фільм «Чалавек ніадкуль» амаль 30 гадоў ляжаў «на паліцы». Камедыю з Анатолем Папанавым у галоўнай ролі, знятую ў 1961, адразу ж забаранілі. Яго рэзка крытыкаваў за «безыдэйнасць» Міхаіл Суслаў, які адказваў за ідэалагічныя пытанні ў Прэзідыуме ЦК КПСС. Хоць насамрэч норавы паказанага там першабытнага племені надта ўжо нагадвалі паводзіны саміх цэнзараў. Забарона была знятая толькі ў 1988.

Фірмовай фішкай Разанава было выкананне эпізадычных роляў у сваіх карцінах. У яго фільмах заўсёды быў падтэкст, які разумны глядач мог расшыфраваць і ацаніць. І амаль у кожным з іх рэжысёр прысутнічаў у ролі наведніка кавярні або лекара, паліцэйскага або суддзі, спячага ўдзельніка сходу або выпадковага мінака.

Як і многія прагрэсіўныя дзеячы расійскай культуры, Разанаў выступіў супраць расейскай агрэсіі ва Украіне. У сакавіку 2014 года разам з жонкай Эмай Абайдулінай і больш як 200 расійскімі кінематаграфістамі ён падпісаў зварот да ўкраінскіх калегаў. Кінематаграфісты выказвалі словы падтрымкі і запэўнівалі, што не вераць афіцыйнай прапагандзе Крамля.

Эльдара Разанава пахаваюць на Новадзявочых могілках у Маскве.

**СМ**

## Барак Абама павіншаваў са 100-годдзем беларускага паэта

Паэт Міхась Кавыль (сапраўднае імя — Язэп Лешчанка) нарадзіўся на Случчыне 1 снежня 1915 г., а большыню жыцця пражыў у амерыканскім горадзе Саўт-Рывэр, штат Нью-Джэрсі.

Сям'я і сябры Міхася Кавыля адзначылі ў нядзелю 29 лістапада стагоддзе ягонага жыцця, плённага на ніве роднага слова й грамадскай дзейнасці. У царкве Св. Ефрасінні Полацкай хор прапяяў юбіляру «Многая лета», а на пачастунку ў ягоным доме ўсе дружна праспявалі вельмі папулярную песню на словы ягонага верша «Васілёчкі»:

Расцвіталі ў полі васілёчкі,
Ой, чаму кароценькія ночкі,
Ой, чаму вялікія дзянькі?

Юбіляр атрымаў віншаванне з Белага дома ад прэзідэнта Барака Абамы і яго жонкі Мішэль. У Амерыцы прынята, каб доўгажыхароў віншаваў кіраўнік краіны.

У 1933 Міхася Кавыля арыштавалі і асудзілі на тры гады. Пакаранне адбываў на Далёкім Усходзе. Вайну сустрэў у Чырвонай Арміі, у 1942 трапіў у нямецкі палон, удалося вызваліцца, вярнуцца ў Мінск.

Ад 1944 выехаў спачатку ў Германію, потым у Бельгію (працаваў у шахтах). У 1950 пераехаў у ЗША. Быў там рэдактарам газеты «Беларуская трыбуна», пасля часопіса «Беларуская думка» (Саўт-Рывер). Выдаў пяць зборнікаў вершаў.



Доўгажыхар Міхась Кавыль з сям'ёй.

Міхась Кавыль

### «Пагоня»

Першы раз мне паштоўку
з «Пагоняю» —
Вянок, БНР... —
паказала следчая... З іроніяй
сказала: «Цяпер
ты не будзеш болей адбрыквацца:
«Не знаю, не я...»
Прызнавайся,
буржуйскі прыхвасцень,
«Пагоня» твая?...»
Я «паздравіў» яе з перамогаю.
Ці сон быў, ці яў?
Адказаў ёй словамі строгімі:
«Пагоня» — мая...»
Рассмяялася: «Цябе мы вылечым
Ад уяў, праяў...»
Перад следчай тады нехта велічны,
а не я стаяў.



## Карціну Марачкіна знялі з юбілейнай выставы

У Палацы мастацтваў у Мінску прайшла выстава «Пагоня», прысвечаная 25-годдзю мастацкай суполкі «Пагоня». 24 лістапада днём, калі экспазіцыя была цалкам гатовая, патэлефанавалі з Міністэрства культуры і загадалі зняць дзве працы Аляксея Марачкіна. Гэта «Двубой, альбо Супраціў двухгаловаму мутанту» і «Маці Божая Нябеснай сотні». Карціну «Маці Божая Нябеснай сотні» ўдалося адстаяць. Мастак спаслаўся на афіцыйную пазіцыю Беларусі ў дачыненні да Украіны. А вось «Двубой» давялося зняць, бо тады пад пагрозай была сама выстава.

На той карціне выяўленая пачварная дзвюхгаловая птушка — на адной галаве шапка-аблавушка з зоркай, з другой валіцца карона. Птушку-мутанта з двух бакоў б'юць вілкамі-трызубамі. Трызубы абвітыя бел-чырвона-белымі і жоўта-блакітнымі стужачкамі.

Знялі таксама карціну Алеся Пушкіна, прысвечаную Украіне. Пазней адумаліся і запатрабавалі зняць яшчэ і палатно Алеся Цыркунова памяці Другой сусветнай вайны і герояў Монтэ-Касіна ды плакат Уладзіміра Крукоўскага «Што ж мы за людзі».

Цэнзура ў Беларусі забароненая законам, але хто ж тут зважае на закон?

Аляксей Марачкін — адзін з заснавальнікаў «Пагоні» і нязменны арганізатар выстаў творчай суполкі.

# Памёр самы вядомы савецкі шпіён у Ізраілі, які быў галоўным інфекцыяністам БССР

У Францыі ва ўзросце 97 гадоў памёр Маркус Клінгберг — самы вядомы шпіён, калі-небудзь выкрыты спецслужбамі Ізраіля.

Яго арыштавалі ў 1983 годзе. А на КДБ ён працаваў да таго аж 30 гадоў. На той момант Клінгберг быў намеснікам дырэктара звышсакрэтнага інстытута біялагічных даследаванняў у Нес-Цыёне, а таксама прафесарам эпідэміялогіі ў Тэль-Авіўскім універсітэце. У прыватнасці, ён перадаваў Савецкаму Саюзу інфармацыю пра тое, якую дзейнасць вядзе Ізраіль у галіне хімічнай і біялагічнай зброі.



Па словах самога вучонага, ён працаваў на СССР па ідэалагічных меркаваннях, а таксама ў падзяку за перамогу над нацыстамі.

Клінгберга прысудзілі да 20 гадоў турмы, пры гэтым палову тэрміну ён правёў у адзіночнай камеры. Пасля вызвалення ў 2003 годзе яму дазволілі з'ехаць да дачкі і ўнука ў Парыж. Ягоная дачка, дарэчы, там актывістка Камуністычнай партыі.

Аўраам Маркус Клінгберг нарадзіўся ў 1915 г. у Варшаве, вучыўся ў Варшаўскім універсітэце. У пачатку Другой сусветнай перабраўся ў СССР, у Мінск, і скончыў Мінскі медінстытут.

22 чэрвеня 1941 года ўступіў у Чырвоную Армію, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, атрымаў званне капітана медыцынскай службы, быў паранены. У 1943 г. скончыў у Маскве аспірантуру па інфекцыйных захворваннях і пасля вызвалення часткі Беларусі ў 1943 г. быў прызначаны галоўным інфекцыяністам БССР.

Па заканчэнні вайны Клінгберг вярнуўся ў Польшчу, дзе даведаўся, што ўся яго сям'я і родныя загінулі ў Трэблінцы. Некаторы час працаваў у Міністэрстве аховы здароўя Польшчы ў якасці намесніка галоўнага інфекцыяніста. А ў 1948 з жонкай Вандай пераехаў у Ізраіль. Відаць, такім чынам яго заслалі савецкія спецслужбы ў якасці будучага агента.

Ізраільская разведка «Масад» мела агентаў у шмат якіх краінах свету. Нават у ЗША дзейнічаў такі Джонатан Полард, пакуль яго не выкрылі ў 1985 і не асудзілі да пажыццёвага зняволення. «Масад» рабіў стаўку на яўрэяў, што адчувалі сваім абавязкам дапамагаць дзяржаве Ізраіль — першай за два тысячагоддзі дзяржаве свайго народа. Клінгберг — той рэдкі выпадак, калі ізраільцянін працаваў на шкоду ўласнай дзяржаве.

**Сямён Цыбульскі**

# На першай пячатцы БНР была не «Пагоня», а каса і граблі

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Не памятаю, ці публікаваў хто фотаздымак або скан арыгіналу 1-й Устаўной Граматы да народаў Беларусі. Што сам тэкст гэтага гістарычнага дакумента публікаваўся шматкроць, тое вядома, але гаворка менавіта пра здымак ці скан.

Ужо даўно апісана, як бальшавікі ў ноч з 18 на 19 лютага 1918 года, прыхапіўшы з сабою авуары Дзяржаўнага банка, уцякалі з Мінска (яшчэ не Менска). Апісана і тое, як 19 лютага Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага З'езда пачаў сваю легальную працу. 20 лютага ў выніку нарадаў быў сфармаваны першы склад першага ўрада Беларусі — Народнага Сакратарыята на чале з Язэпам Варонкам. У той жа дзень быў напісаны і тэкст Устаўнай Граматы Выканаўчага Камітэта Рады Усебеларускага З'езда да народаў Беларусі.

Тэкст Граматы быў аддрукаваны на машынцы, на якой не мелася літары «ў». Гэта стандартны аркуш больш, чым звычайна, цвёрдае паперы. Грамата падпісана старшынёю Выканаўчага Камітэту Рады 1-га Усебеларускага з'езда Язэпам Варонкам і пісарам Макарам Косцевічам (Макарам Краўцовым, аўтарам гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»).

Звяртае ўвагу тое, што дата пад тэкстам Граматы — 21 лютага — упісана ад рукі. Гэтая дата пад дакументам, як на маю думку, з'явілася толькі з тае прычыны, што якраз 21 лютага дакумент быў апублікаваны да ўсеагульнага ведама і абвешчаны Аркадзем Смолічам на пасяджэнні Менскай гарадской думы.

Арыгінал 1-й Устаўнай Граматы цікавы для нас не толькі подпісамі, устаўленай датай, але і пячаткай Народнага Сакратарыята Беларусі. Пячатку ў тыя часы рабілі не пяць хвілін. Значыць, Язэп Варонка і яго таварышы, фармуючы першы склад Народнага Сакратарыята і складаючы тэкст Устаўнай Граматы, адначасова парупіліся і пра пячатку, без якой дзяржаўны дакумент — не зусім дакумент.

На жаль, у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь мне не ўдалося атрымаць скан арыгінала 1-й Устаўнай Граматы. Як паведамілі мне архівісты, наўдўна ці ёсць бээнэраўскія дакументы, што захоўваюцца ў 325-м фондзе, мікрафільмавалі, і скан мне зрабілі з мікрафільма. Таму і якасць скану не зусім добрая.

Як вядома, важныя дзяржаўныя акты змацоўваюцца гербавай пячаткай. Можна думаць, што на пячатцы Народнага Сакратарыята Беларусі, якою змацаваны тэкст 1-й Устаўнай Граматы, — першы герб новай Беларусі. Герб, зазначым, сялянскай нацыі, аграрнай краіны. Сімволіка чыста сялянская і не ўтрымлівае нічога «пралетарскага»: пасярэдзіне пячаткі выява высокага снапа, а на яго тле перакрыжоўваюцца каса і граблі.

На абадку пячаткі выгравіравана: НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ БЕЛАРУСІ.

А як жа з гістарычным гербам «Пагоня»? — спытае каторы чытач. Магу сцвярджаць, што «Пагоня» гербам новай Беларусі была абвешчана 9 ліпеня 1918 года ва ўрадавай дэкларацыі старшыні Народнага Сакратарыята БНР Рамана Мар'яна Скірмунта. Дэкларацыя была ўхвалена Радай БНР. Значыць, і герб «Пагоня» быў ухвалены ў якасці дзяржаўнага сімвала. Трэба спадзявацца, адмысловцы ў галіне сфрагістыкі высветляць, з якой даты акты БНР пачалі змацоўваць пячаткамі з гэтым сімвалам, а 21 лютага 1918 г. першы дзяржаўны акт новай Беларусі быў змацаваны пячаткай з сялянскай сімволікай.



**Фотафакт**

# Як на Палессі будавалі чыгунку

Блогер *sudilovski*, які спецыялізуецца на гістарычных артэфактах часоў Расійскай імперыі, выклаў падборку здымкаў з будаўніцтва чыгункі на Палессі. Восем фатаграфічных выяў аўтарства Конрада Брандэля дэманструюць працэс будаўніцтва палескай чыгункі на ўчастку Пінск — Лунінец. Здымкі датаваныя 1892 годам.

**Насып фарміравалі паступова, часам рабочым даводзілася працаваць на чаўнах.**

# Не забудзем: Дзень герояў

**27 лістапада** была 95-я гадавіна Слуцкага ўзброенага паўстання супраць бальшавікоў.

Чаму Слуцкае паўстанне 1920 года так выдзяляюць гісторыкі? Бо гэта быў не стыхійны бунт супраць новых парадкаў, а сістэмная спроба адстаяць незалежнасць беларускай нацыянальнай дзяржавы.

Паўстанне пачалося пасля таго, як «пасекліі наш край папалам»: польская і савецкая дзяржавы падзялілі Беларусь. Польскія войскі, згодна з дамовай, адышлі, вызваліўшы нейтральную паласу, у якой якраз і ляжала Случчына.

У Слуцку, піша гісторык Анатоль Грыцкевіч, моцныя пазіцы займала партыя эсэраў, якая абапіралася на беларускае сялянства. Эсэры сталі за незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. З адыходам палякаў сяляне абралі Беларускія нацыянальныя камітэты як органы народнай улады ў павеце. Эсэры сталі на чале тых камітэтаў, яны ж ініцыявалі Першы з'езд Случчыны.

Ён адбыўся 14–15 лістапада 1920 г. у Слуцку, у вялікай зале дома Эдварда Вайніловіча.

З'езд прыняў рэзалюцыю аб барацьбе за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку і выбраў Раду, у склад якой увайшлі Уладзімір Пракулевіч (старшыня), Васіль Русак, Пятро Жаўрыд і яшчэ 15 асобаў.

Слуцкая рада за тры дні мабілізавала каля 4000 чалавек. (Як адзначае гісторык Уладзімір Ляхоўскі, маглі б мабілізаваць і 50 тысяч, калі б была зброя.) Рада сфармавала два палкі: Першы Слуцкі полк і Другі Грозаўскі полк. Гэтыя два палкі ўтварылі Слуцкую брыгаду пад камандаваннем Антона Сокала-Кутылоўскага. Камандаванне войскамі было размешчанае ў Семежаве.




**Сцяг 1-га палка слуцкіх паўстанцаў.**

«З Паўстаннем Случчыны салідарызавалася тагды ўся Беларусь. Беларускія жаноцкія арганізацыі прыслалі 1-му Слуцкаму палку палкавы сцяг нацыянальны з «Пагоняй», вышытымі на ім словамі прысвячэння: «Тым, якія першымі паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!» — успамінаў у лісце да Канстанціна Езавітава былы старшыня З'езда Случчыны, камісар Другога Грозаўскага палка Васіль Русак.

Эстонцам, латышам, фінам у 1918—1920 удалося атрымаць дапамогу ад тых ці іншых еўрапейскіх дзяржаў і заснаваць свае незалежныя дзяржавы. Случчакам абаперціся не было на каго. Яны змаглі пратрымацца толькі месяц.

4 снежня пачаўся новы наступ Чырвонай Арміі.

29 снежня Слуцкая брыгада была абяззброеная і інтэрніраваная палякамі.

Да незалежнасці Беларусі заставаўся 71 год.

**Сяргей Мікулевіч**

# Зянон. Гісторыі з жыцця

### Як Хведар Паўлавец Амерыку пастроіў

З Хведарам Паўлаўцом, артыстам Белдзяржфілармоніі, я пазнаёміўся ў 1996-м у Кліўлендзе ў Амерыцы, быў у яго дома, слухаў жарты, феерычныя расповеды і віртуозную ігру на акардэоне (баяне).

З «баянам» Хведар не разлучаўся, граў на беларускіх імпрэзах і на амерыканскіх вяселлях, але грошы зарабляў, кіруючы «тракам» (працаваў «дальнабойшчыкам»). Гадоў праз дзесяць ён меў ужо амерыканскае грамадзянства, пастойнае жыллё і ўвогуле стаў на свае ногі.

Аднойчы, як заўсёды з баянам, ён вяртаўся з Канады ў ЗША. На мяжы амерыканскія памежнікі ды мытнікі пачалі яго здекліва правяраць:

— Што вязеш?

— Акардэон.

— *(Паўза.)* Чый акардэон?

— Мой акардэон.

— Дастаньце, калі ласка.

Хведар дастаў. Мытнікі глядзяць. Сутнасць у тым, што мытны надгляд павінен быў выкрываць тавары, якія вязуць на продаж. Камерцыя тут не дазволена, таму могуць прад'явіць прэтэнзіі, калі прадмет не ў адзінкавым экзэмпляры. Тут жа — толькі адзін прадмет. Пытанне зачынена. Але мытнікі недаверліва глядзяць на інструмент і злосліва ды падазрона так кажуць (цалкам незаконна):

— А вы сыграйце нам, а мы паслухаем, як вы граеце.

Хведар у гарачай вадзе купаны і, адчуўшы прыніжэнне, ажсцяўся. Але адмаўляцца не стаў і думае: «Ах вы, тупікосы! Што ж мне вам зрабіць, гады, каб навек запомнілі?»

І зрабіў. Рэч у тым, што ўсе дзяржаўныя службоўцы Амерыкі, тым больш вайскоўцы, пры гуках амерыканскага гімна, дзе б ён ні гучаў, паводле закона мусяць стаць стройна, як па камандзе «зважай», пакласці руку на сэрца і гэтак моўчкі стаяць, пакуль іграецца і гучыць гімн ЗША.

Вось Хведар шырока расцягнуў мяхі і павольна гэтак, не спяшаючыся, урачыста зайграў дзяржаўны гімн Злучаных Штатаў. Граў дзевяць хвілінаў. Увесь гэты час мытнікі стаялі выцягнуўшыся, як кнаты, трымаючы руку на грудзях і вылупіўшы вочы. Пайграўшы ўволю, Хведар зачахліў баян у футарал і паехаў сабе. От так Хведар Паўлавец Амерыку «пастроіў».

### Бландзін

Наш знакаміты мастак Аляксей Марачкін — вялікі аматар і знаток беларускага ўжытковага мастацтва. Гэта ён адкрыў свету вядомую потым народную мастачку Алену Кіш, рабіў выставы яе твораў, купляў яе дываны. Праз нейкі час ён заўважыў, што сабралася вялікая калекцыя народных дываноў, і вырашыў зрабіць выставу.

Пры Саветах гэта была справа архіцяжкая, бо мала таго што павінны быць усе дазволы ад усіх, хто кантраляваў жыццё ў СССР, праблема яшчэ была ў памяшканні, у выставачнай плошчы.

Блуканне па пакутах прывяло нарэшце мастака ў так званы «Фонд культуры». Усе гэтыя «фонды» ды «таварыствы» пры Саветах былі звычайна пляцоўкамі КДБ, і ўзначальваў тады «фонд» нейкі бландзін з тыповай фактурай капітана гэбэ на сінекуры.

І вось тлумачыць яму мастак, што трэба зрабіць выставу, што ўнікальныя творы, што гэта культура, паказвае фота і кажа, што можа выставіць 40 дываноў. Такога яшчэ не было. І што, вядома ж, патрэбна вялікая выставачная плошча.

Бландзін ківае галавой, слухае, робіць выгляд, што ўсё разумее, і пагаджаецца:

– Да-да, конечно, я понімаю, всё же сорок діванов. Поставіть. Разместіть. Надо подумать.

Аляксей паглядзеў на яго, павярнуўся і пайшоў дахаты.

### Мяшок

Міхась Ткачоў, наш знакаміты археолаг, вярнуўся з археалагічнай разведкі і сышоў з цягніка на вакзале ў Менску з вялікім заплечным брызентавым мяшком. Ён зваліў мяшок на асфальт і стаў аглядацца. Рашыў браць таксі.

А трэба сказаць, што Міхась — гэта быў чалавек-гара: два метры росту плюс камплекцыя. У мяшку ў яго была калекцыя камянёў і цэглы-пальчаткі з беларускіх старых пабудоваў. Не ведаю, колькі там было кіляў у тым мяшку: 100, 200, а можа, і тона. Але факт, што падняць яго мог толькі Ткачоў (ну, хіба што яшчэ чатырох мужчын разам).

Міхась аглядаўся, не ведаючы, што рабіць з мяшком. Касавурыліся нейкія цыганкі, праляталі нейкія маладзёны... Урэшце Міша цалкам разумна разважыў, што мяшок нідзе не дзенецца (ніхто ж не падыме). Ён пойдзе замовіць таксі (каб не насіцца), пад'едзе і забярэ.

Усё гэта заняло яму хвілін 5-6. Але калі ён вярнуўся — мяшка ўжо не было і цыганы прапалі.

І што ўжо там той злодзей думаў, можа, нават з апошніх сіл мяшок прывалокшы?

### Кот не карова

Калі пасля Другой сусветнай вайны і другой савецкай акупацыі беларусы апынуліся на Захадзе ў эміграцыі, то ніхто нідзе не хацеў прызнаваць іх «за людзей». Запісвалі альбо расейцамі, альбо палякамі (залежна ад таго, ці быў беларус з расейскай зоны акупацыі, ці з польскай). І казалі так: ты нарадзіўся ў Менску, а гэта была Расейская Імперыя, значыць, ты расеец. Ці калі, скажам, хто нарадзіўся ў Берасці, то запісвалі палякам, бо нарадзіўся «ў Польшчы» (польскай зоне акупацыі). Асаблівасць гэтага тыпова заходняга тупізму была ў тым, што інакш думаць яны не ўмелі.

Тады адзін беларус ім і кажа:

– Слухайце, не важна, дзе я нарадзіўся, важна, хто я ёсць і кім сябе лічу.

– Не, важна, — кажуць заходнія, — раз нарадзіўся ў Расейскай імперыі, то ты расеец.

Тады беларус ім і кажа зноў:

– Слухайце, калі кот нарадзіўся ў хляве, то ён будзе кот ці карова?

Задумаліся тупіцы і не ведалі, што сказаць, але вымушаныя былі беларусаў запісаць беларусамі.

І гэта не выдуманая гісторыя.

### Капліца

Ад Суботнікаў да чыгуначнай станцыі «Юрацішкі» 12 кіламетраў. Летам я часта хадзіў на станцыю пешкі. Ідзеш сабе, разглядаешся. Недзе за трычатыры кіламетры, не даходзячы да Юрацішак, ёсць вёска Чарнелі. На ўездзе ад Суботнікаў з левага боку стаіць там старая драўляная каплічка з Панам Езусам і Маткай Боскай. Гэта былі 70-я і 80-я гады. Колькі хадзіў міма — яна прыбраная (кветкі нават) стаіць сабе і стаіць. Навакол бальшавікі крыжы паспілоўвалі, а капліца ёсць.

Неяк іншоў я з фотаапаратам і пачаў капліцу фатаграфаваць. Думаю, трэба зафіксаваць, а то яшчэ разбураць. Аж бачу, выходзіць з крайняй хаты дзядзька і да мяне:

– А навошта гэта фатаграфуеце, — пытае, — ці гэта во тут каму перашкаджае?

– Я свой, суботніцкі, — адказваю, — іду на станцыю. Рашыў зняць, бо думаю, каб якая халера не разбурыла, то хоць фатаграфія застанецца.

– А, ну тады так, пэўня. Я гэтак скажу, што калі б не пільнаваў, то б ужо разбурылі.

– Дык што, намерваліся?

– Го! Аднаго разу прылятае тут такі «прадсядзяцель» і давай шурудзіць. Я выйшаў, кажу: «Табе што тут замінае ці гэта ты тут капліцу ставіў?» А ён: «А чаво тут, панімаеш, эта стар'ё, негдзе развернуться. Заўтра прышлю трактар, знясём к чертовой матері!» Я кажу: «Ну, можа, і знясеш, але галаву табе сякерай пашчапаю».

– І што? — пытаю я.

– «Ты меня не пугай, не пугай», — кажа. Я кажу: не пужаю, але паспрабуй, то мазгаўню расшчаплю.

– Ну і далей?

– Пайшоў сабе, мацюкаючыся.

Так і стаяла тая капліца ўвесь час. Можа, і цяпер стаіць, калі дзядзька яшчэ жывы.

**Крыніца: Беларус: літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа, 2015.**

---

**Паэзія**

## Уладзімір Някляеў
## Снег



Дзе голаў прытулю,
Там і знайду начлег.
Снег першы —
На зямлю,
Наступны снег — на снег.
На рану —
Першы боль,
Наступны — на шрамы,
На лёс, на стынь і золь,
На першы след зімы,
Што толькі пачала
Па снежні свой разбег…
Прыбегла. Абняла.
З плячэй страсае снег.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**На Случчыне адзначылі 95-я ўгодкі антыбальшавіцкага паўстання. Галоўная імпрэза прайшла ў Слуцку, дзе да мінчукоў далучыліся мясцовыя актывісты. Калона прайшла ад Слуцкага краязнаўчага музея да гарадскога парку культуры і адпачынку на вуліцы Віленскай, дзе прайшоў урачысты мітынг. Пазней асобны мітынг правялі таксама актывісты Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ.**



**Незвычайную калядную ёлку, сапраўдны «Казачны дом», паставілі ў Вільні. 27 лістапада казкі пад ялінкай чытаў мэр Вільні Рэмігіус Шымашус.**



**Кіраўнік Беларускай федэрацыі хакея Ігар Рачкоўскі кардынальна змяніў імідж — ён адпусціў бараду (што рэдкасць для высокіх чыноўнікаў). Раней Рачкоўскі ўзначальваў Памежны камітэт, але быў вымушаны сысці ў адстаўку пасля выпадку са шведскім «медзведзіроўшчыкам».**



**83-гадовая Рыта Бярковіц пасля перамогі ў конкурсе «Міс, якая перажыла Халакост». Хайфа, Ізраіль.**



**Прэм'ер-міністр Канады Жустэн Трудо носіць чырвоныя шкарпэткі з кляновымі лістамі.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Раней бацькоўскіх сходаў баяліся дзеці, а цяпер — бацькі.

* * *

Яны былі такія рамантычныя, што над іх перапіскай Укантакце плакаў нават КДБ.

* * *

У Беларусі нават снег баіцца класціся: а раптам падаткі?

* * *

Гучней за ўсіх пра нялюдскасць адключэння электраэнергіі ў Крыме крычаць тыя, хто адключаў газ украінцам і беларусам зімой.

* * *

– Віншую, у вас прагрэс у лячэнні!

– І гэта вы называеце прагрэсам?! 6 месяцаў таму я быў Напалеонам, а цяпер — ніхто...

* * *

– Доктар, я зламаў нагу ў двух месцах!

– Вы запомнілі гэтыя месцы?

– Так!

– Больш туды не хадзіце!

* * *

– Вы, хлопцы, дурныя. Ніколі не пытайцеся, ці можна пацалаваць, проста цалуйце.

— Ну, адзін мой знаёмы так зімой да трубы прыліп.

* * *

Валера, убачыўшы ў лесе мядзведзя, зваліўся і прыкінуўся мёртвым. Мядзведзь прыколу не зразумеў і закапаў яго.

* * *

Урок у першым класе. Настаўніца:

— Восень, апала лістота, трава прыгнулася да зямлі. Дзеці, каму цяжэй цяпер хавацца?

Міхась:

— Дашнікам!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Случчына** — адзін з прыгажэйшых куткоў Беларусі з багатым сялянствам не дапусціў пасля падпісання трактату ў Рызе на сваю зямлю маскоўскіх гвалтаўнікоў. 15 лістапада адбыўся «Усяслуцкі» беларускі з'езд, на каторым Случчына прызнана часцінай незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Аб'яўлена мабілізацыя, на каторую пайшлі ўсе. Гэтак рады партызанаў вельмі пагусцелі. Усе сталі ў рады войска, каб бараніць свой край ад бальшавіцкай тыраніі.

**«НН». №6. 1920.**

**Мілінкевіч робіць прэзідэнцкую работу.** Яшчэ не стаўшы прэзідэнтам, кандыдат ад апазіцыі дасягнуў поспехаў на дыпламатычнай ніве. У Вільні Мілінкевіч меў сустрэчу з прэзідэнтам Літвы Валдасам Адамкусам, а адтуль накіраваўся ў Кіеў на саміт Украіна — Еўрасаюз.

**«НН». №45. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 01.12.2015.
Замова №4827.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15045